

Міраслаў Раманюк →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 52 (3111) Год LX | Беласток, 27 снежня 2015 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)




## МЫ ПОМНІМ!

Сваёй зямлі ціхія абаронцы —
Ратаі, вазакі, землярobы, дзеці, жанчыны
Леглі забітыя пад родным сонцам
Хто пад крыжом,
А хто ў безыменнай магіле.
Спалены, расстраляны, калом забіты,
Чалавек свой ад веку ляжыць.
За тое, што беларус, які словам родным
Сваёй бараніў ён мяжы.

Міра ЛУКША

# Залешаны, Зані, Вулька...

У мінаючым годзе ў якасці шматлікіх праяў інтэлектуальнай актыўнасці адзначаліся сотыя ўгодкі „бежанства”. Гэта сапраўды была падзея, якая паўплывала не толькі на лёс праваслаўных беларусаў Беласточчыны ў час Першай сусветнай вайны, але таксама моцна падкарэкціравала гісторыю ўсяе нацыі. У мінаючым годзе некалькі тысяч нашчадкаў бежанцаў з Беласточчыны прымала ўдзел у аўтарскіх сустрэчах, канферэнцыях, фотавыстаўках, дыскусіях на шматлікіх інтэрнэт-старонках. З удзелам беларускіх аўтараў з'явіліся новыя кніжкі і артыкулы. Пра бежанства ахвотна разважалі польскія публіцысты і палітыкі, Сойм выдаў мемарыяльны дакумент, а новаабраны прэзідэнт Анджэй Дуда на Святой Гары Грабарцы сказаў некалькі фраз пра трагічныя паслядоўнасці вымушанай вандроўкі праваслаўных жыхароў Беласточчыны на Усход у 1915 годзе.

У 2016 годзе міне 70 гадоў ад жудаснай пацыфікацыі нацыяналістычным падполлем беларускіх вёсак на Беласточчыне. Адзначаць гэты сумны юбілей напэўна не стануць ні польскія палітыкі, ні публіцысты, ні вучоныя. Ніхто з беларускіх дзеячаў таксама не ведае як належна ўшанаваць памяць ахвяр пасляваеннага тэрору. Яшчэ 20 год таму не было такой праблемы. Можна было напісаць і сказаць амаль усё, што людзі думалі. Але ў апошніх гадах прагрэс у „дэмакратычным развіцці” краіны пайшоў так далёка, што найбольш адважныя сталі гаварыць шэптам. „Праклятыя салдаты” ад „Бурага” ці „Лупашкі” масава былі кананізаваны, пакуль толькі палітычна і маральна, але хто ведае ці хутка не апынуцца ў ліку святых. Напамінаць сёння аб спаленых у 1945-1946 гадах Патоцы, ці Залешанах гэта, паводле самых навейшых дасягненняў „навукі”, а перш за ўсё прапаганды, вызначыцца ў ролі агента сталінскага НКВД, берутаўскага УБ, а можа нават прыхільніка Пуціна, ці прынамсі Лукашэнкі.

Пераканалася аб гэтым Валянціна Лаеўская, журналістка Радыё Рацыя, якая за цыкл рэпартажаў пра злачынствы падполля ў адносінах да беларусаў прайшла ў фінал конкурсу, арганізаванага Інстытутам нацыянальнай памяці. Зараз адазваліся вялікія „аўтарытэты” навукі і публіцыстыкі з Любліна, Торуні, Варшавы і іншых цэнтраў інтэлектуальнай думкі, якія выказалі сваё бачанне пасляваеннай гісторыі Беласточчыны. Без ніякіх даследаванняў напісалі як тут было. Можна было прачытаць у аўтараў з прафесарскімі, доктарскімі і рэдактарскімі званнямі, што „Буры”, ці „Лупашка” ў рамках выканання „патрыятычнай місіі” знішчалі на Беласточчыне агентаў камуністычнай бяспекі, здраднікаў айчыны, савецкіх шпіёнаў. Са зместу шматлікіх публікацый цяжка было даведацца, у якую катэгорыю злачынцаў гэтыя афіцэры прапаганды III РП прылічылі памардаваных у Занях, Залешанах, Патоцы дзяцей, ці вазакоў у Пухалах-Старых.

Яшчэ да вайны, у рамках змагання з беларускім нацыянальным рухам, для цэлай нацыі прышпілілі ярлык камуністаў. Дастаткова было, калі нехта дамагаўся школы з беларускай мовай навучання, прабаваў арганізаваць тэатральную дзейнасць, ці толькі непрыхільна выказаўся на конт палітыкі санацыйных улад, каб зараз апынуўся ў спіску камуністаў. Шчыльная сетка канфідэнтаў дазваляла органам дзяржаўнай бяспекі сачыць за кожным сказаным словам падазроных. Тысячы беларусаў нават не ўсведамлялі сябе, што яны — камуністы і якую небяспеку, паводле паліцыі і дзяржаўных чыноўнікаў, прадстаўлялі для польскай дзяржавы. Абвінавачанні ў прыхільнасці да камунізму апраўдвалі кожную нахабнасць з боку дзяржаўных органаў.

Пасля вайны ўсе заўважылі прысутнасць беларусаў у радах міліцыі і камуністычнай бяспекі. Служыць новай уладзе і па яе закліку пайшло пару соцень маладых хлопцаў. Гэта невялікі адсотак ад аднаго працэнта беларускага насельніцтва Беласточчыны. Добра аднак упісвалася і надалей упісваецца ўсім прапагандыстам у лозунг „беларускамуніст”, амаль так як „паляк-каталік”. Зрэдку прытым нехта толькі нясмела заўважыць, што ў Польшчы ў радах міліцыі, бяспекі і ў апараце камуністычнай партыі неадкладна пасля вайны працавалі дзясяткі тысяч, а некалькі год пазней сотні тысяч палякаў.

Беларусы Беласточчыны ставіліся на працу ва ўсе дзяржаўныя структуры Народнай Польшчы, так як дарэчы рабілі гэта палякі. У радах міліцыі і бяспекі змагаліся пад заўсёды слушным лозунгам „за дэмакратычную Польшчу”, а прытым яшчэ за грамадскую справядлівасць. Таксама служылі б пад лозунгам „за незалежную Польшчу” ў ролі паліцыянтаў, ці чыноўнікаў II Рэчы Паспалітай, толькі санацыйныя палкоўнікі катэгарычна адмаўлялі ім нават думаць пра такую годнасць.

Нядаўна ўнук былога міліцыянера, беларуса, вярнуўся з Ірака. Быў там двойчы. Як жа яго бацька, сын камуністычнага міліцыянера, ганарыцца тым, што яго сын „быў на місіі”, змагаўся „за пашырэнне зоны дэмакратыі”. Нават у галаву яму не прыходзіць, што мясцовыя арабы не чакалі ніякага экспарту дэмакратыі, так як палякі не чакалі пасля вайны камунізму. Чалавек гэты, расказваючы пра сына „героя”, паўтарае словы афіцыйнай прапаганды і ганарыцца сваім нашчадкам, так як пэўна ганарыўся яго вясковы прадзед поспехам сына міліцыянера. Прапаганда абмывае мазгі аднолькава, заўсёды паводле патрэб улады, незалежна ад пануючай палітычнай сістэмы.

Сучаснае апраўданне ўсялякімі аўтарытэтамі пасляваенных забойстваў мірных жыхароў беларускіх вёсак псеўдааргументам, што былі яны часткай супольнасці прыхільнай камунізму само па сабе амаральнае, але выразна паказвае таксама напрамкі развіцця палітычнай думкі ў Польшчы. У Залешанах, Занях, Патоцы, Вульцы-Выганоўскай, Пухалах, Студзянках, Стацэвічах, Пухлах, Панурым, Фальварках... „рыцары свабоды”, „героі” забівалі „рускіх” „камуністаў”, „кацапаў”. Антыкамуністычнае падполле гэта цяпер увасабленне мясцовага дабра, якое змагалася з лагерам змрочнага зла. Можа паводле евангельскіх законаў памардаваныя ў пацыфікаваных вёсках дзеці, жанчыны, ці вазакі, якія былі сведкамі „місіі” „Бурага”, з'яўляюцца неўяваватымі ахвярамі, але сучасная палітычная міфалогія краіны патрабуе, семдзесят гадоў пасля смерці, запісаць іх у рады камуністычных канфідэнтаў і савецкіх шпіёнаў. Усё дзеля таго, каб праклятых („салдат”) зрабіць святымі.

Адыходзіць пакаленне беларусаў, якое было сведкам пасляваенных жудасных падзей. Некаторым першыя гады пасля заканчэння вайны запамяталіся больш кашмарнымі, чым перыяд нямецкай акупацыі. Разам з імі адыходзіць амаль ірацыянальная пачуццё страху перад палітычнымі закалотамі ў краіне і недавер да суседзяў — католікаў-палякаў. Адлігу 1956 года, ці салідарніцкую рэвалюцыю 1980 года ўспрымалі яны як прадпасылкі вяртання эпохі „праклятых салдат”. Іх унукі найчасцей адчуваюць сябе палякамі і робяць усё, каб ніхто і ніколі не палічыў іх „рускімі”, ці нейкімі іншымі „кацапамі”. Але ці можна ім здзіўляцца?

Яўген МІРАНОВІЧ



# Карагод старога года

Ну вось і адыходзіць, адлятае, адпаўзае ў Лету 2015 год, яшчэ адзін каляндарны адрэзак трэцяга тысячагоддзя. Для свету ён быў надзвычай складаны, напружаны і трывожны. А што ж прынёс 2015 год для Беларусі?

Беларуская прысутнасць у свеце за гэты час пашырылася. У Кардыльерах на чылійскай гары Сіра-Кемаль беларус Павал Гарбуноў усталяваў памятную дошку Ігнату Дамейку. А ў Мастаўлянах на Беласточчыне быў адкрыты помнік герою вызвольнага руху Кастусю Каліноўскаму. Актывісты Іркуцкага таварыства беларускай культуры на адной з вяршынь гор у Прыбайкаллі ўсталявалі шыльду ў гонар Яна Чэрскага і іншых паўстанцаў 1863 года. Годна ўшанавалі змагароў і ў самой Беларусі — паставілі новыя крыжы. Нешта рабілася і ў культуры. У Шчучыне ў Дзень беларускага пісьменства адкрылі адноўлены былы палац князёў Друцкіх-Любецкіх.

А ў сталіцы Аўстраліі Канберы адчынілася амбасада Рэспублікі Беларусь. Галоўная ж падзея — Нобелеўская прэмія Святлане Алексіевіч у галіне літаратуры. Яе ўспрынялі па-рознаму: улады больш чым стрымана, гэткім прызнаннем праз зубы. Шырокія інтэлектуальныя колы святкавалі гэтае дасягненне з вялікім энтузіязмам і нават радасцю. А вось эліта, арыентаваная на нацыянальныя каштоўнасці, дастаткова скептычна. Усіх тут зразумець можна. Пазітыў жа бясспрэчна адзін — дзяржава Рэспубліка Беларусь з гэтага моманту прадстаўлена ў нобелеўскіх спісах, а значыць агульны аўтарытэт краіны вырас.

Не астаўся без узнагарод і кіраўнік краіны. Кіраўніком „дружественнага” Дагестана ён зараз асвечаны тытулам „пачэснага уздзеня”. Гэта такі своеасаблівы каўказскі дваранскі тытул. Як кажуць, будзе дзень — будзе і уздзень. Хутка ППРБ па колькасці ўзнагарод дагоніць незабыўнага Леаніда Ільіча, які, заўважу, па працягласці часу кіраваў менш. Адыходны год быў і выбарчы — самі ведаеце хто пры дапамозе вернай паплечніцы — таварыша Лідзіі — аформіў сабе чарговы пажыццёвы прэзідэнцкі тэрмін.

Беларусь пражыла першы год у так званым еўразійскім саюзе. І, безумоўна, стала яшчэ на крок бліжэй да Азіі, чым да Еўропы. Еўрасюзная кампанія і сама цэлы час гарodзіць для нас новыя платы. На гэты раз брусельскія бюракраты прыдумалі ў дадатак да віз для грамадзян Беларусі здаваць яшчэ і адбіткі пальцаў. Відаць, менавіта мы, беларусы, уяўляем найбольшую пагрозу для бяспекі Еўрасаюза. А вось Ізраіль, наадварот, зрабіў для беларусаў бязвізавы ўезд. Праўда, і тут для апошніх з еўрапейцаў. Можа таму, што народ наш так і не разабраўся яшчэ, хто ж мы — і дзе ляжаць нашы гаспадарчыя і культурніцкія інтарэсы — у Сірыі і Таджыкістане ці ў суседніх дзяржавах, з якімі мяжуем.

Год 2015 адмысловым указам Вярхоўнага галоўнакамандуючага быў абвешчаны годам моладзі. Студэнты сталіцы адзначыліся ў снежні, хай сабе і сціплымі, але ўсё ж пратэстамі. У горадзе ж над Нёманам моладзі амаль няма. І сапраўды што ёй рабіць тут — якую адукацыю можна атрымаць у мясцовым цемрашальскім універсітэце, адкуль пазвальнялі найлепшых выкладчыкаў і дзе засталіся адны пустыя ідэолагі! Гарадзенская моладзь найбліжэй у Вільні ды Варшаве, хто ў Аўстраліі, хто ў Брытаніі, многія ў Амерыцы. Рыба шукае, дзе глыбей, а моладзь — дзе святлей ды вальней.

Галоўны станоўчы вынік года, і гэта ўжо без усялякай іроніі, тое, што Беларусь не ўцягнулася сур'ёзна ў ваенныя канфлікты і міждзяржаўныя сваркі. Аднак, страты ўсё ж зазнала. У жніўні ў баі пад Белакаменкай у Данбасе быў смяротна паранены беларус Алесь Чаркашын, які ваяваў у складзе Добраахвотнага ўкраінскага корпуса Правага сектара. У тым жа баі загінуў адзін са стваральнікаў беларускага батальёна ўкраінец Віталь Цілінжэнка. Адышлі ў вечнасць вядомыя беларусы Анатоль Грыцкевіч, Лідзія Арабей, Аляксандр Надсан, Уладзімір Содаль, Аляксей Кароль, Віктар Сырыца, іншыя патрыёты.

У жніўні на волю выйшлі палітвязні — Мікалай Статкевіч, Юрый Рубцоў, Ігар Алінезвіч, Мікалай Дзядок, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч. Але агульнай свабоды ў краіне больш не стала. Незаконныя пераследы, штрафы, пагрозы, ціск на грамадскія арганізацыі, журналістаў, прадпрымальнікаў — усё гэта наша паўсядзённая рэальнасць.

Але будзе новы дзень, будуць і новыя падзеі. З 2016 годам усіх!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Парожняе і пустое

Глабальнае пацяпленне прывяло да скарачэння язычкоў чмялёў, што даказалі апошнія даследаванні канадска-амерыканскай каманды навукоўцаў. Магчыма, пахаладанне давяло б да падобных, хаця прынцыпова іншых змен на Зямлі. Напрыклад, у Польшчы ў апошні час рэзка стала халаднейў палітычным асяроддзі. Нягледзячы на маштабныя адрозненні, змены ў абодвух выпадках прыводзяць да падобных і нават больш глыбокіх змен. У чмялёў памяншэнне іх язычкоў пачало адбывацца ў выніку вымірання відаў раслін, якія маюць глыбокія кветкавыя кубачкі. Толькі некаторыя з іх дастасаваліся да кветак з больш плыткімі кубачкамі. Але гэта не з'яўляецца дастатковай умовай, каб чмялі як від напэўна перажылі. Што тычыцца змен у Польшчы то вядома, што як у чмялёў у выніку пацяплення скараціліся язычкі, так многім людзям з-за палітычнага астуджэння клімату яны значна падаўжэлі, а іншым у сваю чаргу радыкальна скараціліся. Незалежна ад таго, ці мы ў Польшчы маем астуджэнне ці пацяпленне, і так доступ да нектару найперш мае ўлада, згодна з правілам, сфармуляваным яшчэ ў першы ваеннага становішча тагачасным прэс-сакратарам урада Ежы Урбанам: «Улада пракорміцца сама!». Інакш гаворачы, валяцца самі ў рот галушкі. Хто побач з уладай, таксама не наробіцца. Хопіць, што раскрые верную зяпу, і тое што пральецца з уладнай пысы, капне і ёй. А гэтага даволі шмат. А хто ад яе далей, мусіць больш пастарацца. Каму будзе расці больш язык, той наесца больш недаедкаў. Не абы-якіх, бо гэта пасады для сябе, штаты для сямейнікаў, знаёмых і нават суседзяў. Але каб гэтага дабіцца, трэба язычок паддобрыць для чаканняў улады. Таму неабходна практыкаваць яго пастаянна — у лізанні, мянчэнні, прысмоктванні; у Сейме, перад тэлекамерамі, сярод знаёмых. Добра па меншай меры адзін раз у месяц праверыць поўную механіку ротавага апарату ў падкусванні, пляванні, драбненні, пережоўванні і, вядома, у глытанні. Бо тое, чаго чалавек нахапаецца, гэта яго! Такім чынам, падаўжэнне язычкоў палякаў, а таксама іх скарачэнне, у залежнасці ад таго, хто ёсць пры актуальнай уладзе, здаецца быць непазбежным. На шчасце, ці на жаль, у нас у краіне нектару значная колькасць. У самім урадзе, у яго ўстановах і агенцтвах, у прадпрыемствах і мерапрыемствах. Тых што цалкам належаць дзяржаве, і тых напаўдзяржаўных. І гэтых законных ці напалову з беззаконнем. І гэтых тайных і яшчэ больш тайна прыбытковых. Наесца пры іх кожная ўлада. Таксама выжыве пры ёй — такой ці іншай — грамадства. Горш з Дзяржавай. У выніку бесперапынных і экстрэмальных змен у палітычным клімаце краіны, барацьбу за выжыванне могуць выйграць польскія то дзяржава ці пустыя па змесце партыі. Прысвоеная імі Дзяржава не мае ніякіх шанцаў. Гэтая канцэпцыя штораз больш пустая. Дзяржава. Пустэча.

Гаворачы аб паняцці пустэчы, я натрапіў у маёй галаве на яшчэ адну думку пра яе. Так — натрапіў! Таму што набліжаюцца Каляды, то і думка, так сказаць, святочная. Дарэчы, і думка бывае хутчэй пры асаблівых выпадках, а не кожны дзень. Калі хто-небудзь думае, што прыходзіць яна лёгка, як галоднаму хлеб, няхай гэтага тэксту не чытае. Затое да чытання я заклікаю ўсіх тых, каму не чужая постаць беднай дзяўчынкі з запалкамі. Той з казкі Андэрсена. Хто чытаў яе будучы дзіцём, то ўбачыць няшчасную дзяўчынку на рагу кожнай вуліцы, асабліва напярэдадні Каляд. Не так навочна, як вачыма ўявы. Дарэчы, у ролю дзяўчынкі цалкам можа ўвайсці дрыжачы хлопчык, змардаваны старэча ці бяздомная маці, прытуляючая да грудзей скуголіўшае немаўля. Для кожнага з гэтых персанажаў ахвотна даруем ва ўяве агеньчык палпаленай запалкі, каб сагрэлі на марозе адубелыя рукі. У любым выпадку, гэта будзе роўна беспраблемная дапамога, як тая аказаная бедным праз пасрэдніцтва эсэмэскі. Кошту амаль няма, а якая палёгка! Вяртаючыся да нашых уяўных фігур, то я спытаюся, чаму яны наводзяць на нас страх? Мабыць такі ж сам перапалох, які мы адчуваем падчас калядная вячэры, калі хтосьці без папярэджання пагрукае ў дзверы нашага дома. Ці нашы вочы накіруюцца на тое сімвалічнае парожняе і як жа бясконца пустое месца за сталом? Ці на дзверы? Надалей зачыненыя.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Скрыжаванне імя Памяці бежанства

У апошні момант радны Форуму меншасцей Падляшша Славамір Назарук прадставіў у парадак дня апошняй сёлетняй сесіі Гарадской рады Беластока (14 снежня) праект пастановы аб прысваенні кругавой развязцы на лініі рухавай Генеральскай трасы, на скрыжаванні вуліц Уладзіслава Андэрса і І Арміі Войска Польскага, назвы Памяці бежанства 1915 года. Гэта адбылося амаль у канцы святкавання ўрачыста — асабліва ў нашым рэгіёне — стагоддзя вялікага эксодусу на Усход. Пад прапановай падпісаліся прадстаўнікі ўсіх клубаў, у тым ліку шэсць з найбольшага клуба ПіС са старшынёй ГР Марыюшам Громкам. Перад пачаткам сесіі радны Назарук тлумачыў «Ніве» сваю прапанову: «Сёлета мы адзначалі стагоддзе бежанства і гэта добра, што ёсць такая прапанова, каб адзначыць гэтую падзею і ў Беластоку. Мая роля тут толькі фармальная, таму што многія людзі ўжо зрабілі шмат, каб асветліць гэтую тэму. У падрыхтоўцы праекта пастановы выкарыстаны матэрыялы, сабраныя Дарафеем Фіёнікам з Музея малой айчыны, Анэтай Прымакай, якая зрабіла вэб-старонку пра бежанства ці Фондам князя Канстанціна Астрожскага. Я, як радны, хацеў, каб памяць аб бежанстве, таксама звязаным з Беласточчынай і датычным не толькі да беларусаў, трывала замацавалася ў памяці жыхароў. Трохі позна гэтая ідэя прыйшла мне ў галаву, але ніхто з нашага асяроддзя не падказаў мне, каб такім чынам увекавечыць бежанства. Мабыць, я павінен прыйсці да гэтага раней, але лепш у юбілейным годзе позна, чым ніколі».

У абгрунтаванні пастановы аб ушанаванні бежанства можна прачытаць: «Гэтая падзея закранула ўсе грамадскія і этнічныя групы, хоць і не ў аднолькавай ступені. Асабліва балючыя выпрабаванні выпалі на долю насельніцтва, між іншым, Падляшша і Холмшчыны (...). Варта памятаць, што, хоць гэта для палякаў не было такім масавым выгнаннем, як для праваслаўных жыхароў Падляшша, то ў Расіі апынулася прынамсі 600 тысяч палякаў. Апрача сялян быў там таксама цвет польскай інтэлігенцыі, напрыклад, будучы прэм'ер-міністр і аўтар грашовай рэформы Уладзіслаў Грабскі ці прэзідэнт Станіслаў Вайцяхоўскі». У канцы абгрунтавання радны Назарук падкрэсліў, пасля спасылкі на многія факты і лікі: «Гэтая трагічная падзея паўплывала не толькі на праваслаўных, але таксама на каталікоў і габрэяў. Бежанства гэта таксама гісторыя палякаў. Гэта быў супольны лёс у гэтыя цяжкія часы і, напэўна, агульная частка нашай гісторыі».

Канчаткова за рашэннем аб прысваенні кругавой развязцы назвы Памяці бежанства 1915 года на 28 радных прагаласавалі бясспрэчна ўсе прысутныя ў зале — 24. Двух радных адсутнічала яшчэ да галасавання, а два радныя Права і справядлівасці (Кшыштаф Стаўніцкі і Тамаш Мадрас, якія беспаспяхова прапанавалі заяўніку прысвоіць вуліцы іншую назву — Ахвяр бежанства) на момант галасавання пакінулі залу пасяджэнняў, не жадаючы ўдзельнічаць у галасаванні.

Дзякуючы дзеянням радных ад Форуму меншасцей Падляшша ў Гарадской радзе Беластока папярэдніх тэрмінаў (цяпер Форум прадстаўляе толькі Славамір Назарук) маем у сталіцы Падляшша, між іншым, сквер Тамары Саланевіч, вуліцы Беларускую, Мікалая Гайдука ці скрыжаванне з кругавой развязкай імя Яна Тарасевіча і архіепіскапа генерала Мірана Хадакоўскага. Радны Назарук чакае ад усяго беларускага і праваслаўнага асяроддзя прапаноў для далейшага ўшанавання звязаных з ім падзей і людзей.

Тым часам падчас сесіі 14 снежня галасамі ўсіх прысутных радных былі прыняты пастановы аб прысваенні адной з вуліц на Бацечках імя іншага салдата антыкамуністычнага падполля Казімежа Каменскага «Гузара» (Армія Краёвая, Zrzeszenie Wolność i Niezawisłość) і аб'яўленні наступнага года ў Беластоку годам Дануты Седзікуўны «Інкі», медсястры 4-га эскадрона аднаўленай на Беласточчыне 5-й Віленскай брыгады Арміі Краёвай, арыштаванай у 1946 годзе УБ і расстралянай ва ўзросце 18 гадоў. Як кажуць дакументы, яна памерла са словамі на вуснах: „Niech żyje Polska! Niech żyje Łupaszko!”. У Беластоку ў наступным годзе ў рамках аднаго з праектаў гарамадзянскага бюджэту мае быць узведзены ёй помнік. У сувязі з абвяшчэннем 2016 года яе годам, віцэ-прэзідэнт Беластока Рафал Рудніцкі сказаў: «Гарадскія ўстановы культуры будуць мець абавязак арганізаваць заданні па тэмах звязаных з „Інкай”».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## Размова са старастам Гайнаўскага павета МІРАСЛАВАМ РАМАНЮКОМ.

# Праграма развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы

**— Рыхтаваўся праект «Праграмы развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы». На якім этапе знаходзяцца працы па яе распрацоўцы?**

— У студзені гэтага года наша стараства стала каардынатарам падрыхтоўкі праекта «Праграма развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы». Мы засяродзіліся на пошуках крыніц фінансавання праграмы. «Праграма развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы» стала адным з прыярытэтных дзеянняў у рамках Кантракта Падляшскага ваяводства. Былі знойдзены крыніцы фінансавання праграмы, між іншым, у рамках дзяржаўнага і ваяводскага бюджэтаў. Гэтае фінансаванне было дамоўленае з Міністэрствам развіцця інфраструктуры і ўрадам. Важнае, што ўдалося дайсці да паразумення паміж самаўрадамі Гайнаўшчыны, Дзяржаўнымі лясамі, Белавежскім нацыянальным паркам, Маршалкоўскай упраўай і няўрадавымі арганізацыямі, якія працавалі над стварэннем «Праграмы развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы». У рамках праграмы прадбачваецца выдаткаваць на тэрыторыі Гайнаўскага павета ажно 980 мільёнаў злотых. Хаця праграму не паспеў зацвердзіць папярэдні ўрад, я разлічваю, што прыме яе да рэалізацыі новы ўрад.

**— Міністр асяроддзя прафесар Ян Шышка крытычна ацаніў палітыку папярэдняга міністра і ўрада ў адносінах да Белавежскай пушчы. Новы ўрад РП робіць перагляд прапаноў папярэдняга ўрада і можа даць сваю прапанову для рэгіёна Белавежскай пушчы?**

— Я ўсё ж разлічваю на згоду цяперашняга ўрада на рэалізаванне падрыхтаванай ужо «Праграмы развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы».


Фота Аляксея МАРОЗА

**— На якія інвестыцыі можна было б выдаткоўваць сродкі ў рамках «Праграмы развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы»?**

— Прадугледжваюцца датацыі і пазыкі на добрых умовах з мэтай развіцця прадпрымальніцтва на Гайнаўшчыне і будовы аднаўляльных крыніц энергіі. Іх будову плануецца давесці да такога ўзроўню, каб на тэрыторыі Гайнаўскага павета можна было прадукаваць столькі энергіі з аднаўляльных крыніц, каб яе хапіла для ўсіх прадпрыемстваў і жыхароў Гайнаўшчыны, а ўсё гэта робіцца, між іншым, дзеля аховы пушчанскай прыроды і наваколля. Прадбачваецца выдаткаванне сродкаў на *якасны турыстычны прадукт*, якім могуць быць, напрыклад, гасцініцы, агратурыстычныя кватэры і іншыя прапановы дзеля развіцця турызму. Прадугледжваецца дафінансаванне стварэння інвестыцыйных тэрыторый у горадзе ды Гайнаўскай, Нарваўскай, Нараўчанскай і Кляшчэлеўскай гмінах. У рамках «Праграмы развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы» прадбачваецца фінансаванне будовы другога тэрмінала на пагранпераходзе ў Семяноўцы і запісаны сродкі на інвестыцыі на пагранпераходзе ў Полаўцах. Запланавалі мы таксама грошы на падмацаванне прафесійнага школьніцтва ў Гайнаўскім павеце, асабліва на стварэнне добрых умоў для адукацыі па спецыяльнасці тэхнік-механік. Добра адукаваныя выпускнікі механічнага тэхнікума павінны быць у бліжэйшым часе асабліва патрэбнымі ў новабудаваным прадпрыемстве суполкі «Пронар» у Гайнаўцы, ці на гайнаўскім заводзе «Гамех». Прадбачваюцца таксама сродкі на адукацыю ў напрамку аднаўляльных крыніц энергіі і прадпрымальніцтва. У праграме запланаваныя вялікія сродкі на перабудову ваяводскіх і павятовых дарог на Гайнаўшчыне. Самыя вялікія інвестыцыі ў гэтай галіне — гэта перабудова ваяводскіх дарог паміж мясцовасцямі Навасады — Заблудаў і Звадзецкае — Юшкаў Груд.

**— Дагэтуль павятовыя дарогі мадэрнізаваліся з фінансавай падтрымкай гарадскіх і вясковых гмін і з прыцягненнем вонкавых сродкаў. Як зараз складваецца супрацоўніцтва старасва з гміннымі самаўрадамі ў гэтай галіне?**

— Супрацоўніцтва з гміннымі самаўрадамі складваецца добра. Калі мы рашаемся мадэрнізаваць дарогі ў рамках праграмы, якую сталі называць «схетыноўкай», то на такую інвестыцыю атрымліваем 50% коштаў яе рэалізацыі з дзяржаўнага бюджэту, а па 25% коштаў інвестыцыі гэта ўзносы з бюджэтаў старасва, горада або вясковых гмін. Па гэтай праграме мы перабудоўвалі ў 2015 годзе тры павятовыя дарогі. Рэалізавалі другі этап мадэрнізацыі павятовай дарогі ў Чыжах, выканалі першы этап перабудовы дарогі па вуліцы Простай у Гайнаўцы і мадэрнізавалі павятовую дарогу з Дубіч-Асочных у Ягадніку, а падрыхтоўка да гэтых інвестыцый адбывалася яшчэ ў папярэднім тэрміне паўнамоцтваў Рады Гайнаўскага павета. У выпадку гэтых інвестыцый, самаўрады горада Гайнаўкі, Гайнаўскай вясковай, Чыжоўскай і Дубіцкай гмін фінансавалі інвестыцыі ў такім самым памеры, як наша стараства.

**— Якія іншыя вялікія інвестыцыі з удзелам Гайнаўскага старасва рэалізаваліся на працягу гэтага года?**

— Апошнім часам Павятовая пажарная ахова ў Гайнаўцы атрымала 4 пажарныя машыны, з багатай тэхнікай. Купля фінансавалася ў рамках міжнароднага трансгранічнага праекта Польшча-Беларусь-Украіна і мы сродкаў з нашага бюджэту не дакладвалі. Затое сродкі з нашага бюджэту, так як гэта зрабілі самаўрады горада Гайнаўкі і іншых гмін нашага павета, даклалі мы да грунтоўнага рамонту аддзялення ўнутраных хвароб, павятовага шпіталя, у выніку чаго выдатна паправіліся там умовы пабыўкі і лячэння хворых.

**— Ужо 17 снежня на пасяджэнні Рады Гайнаўскага павета адбудзецца дыскусія, прысвечана бюджэту Гайнаўскага павета на 2016 год і галасаванне.**

— Запазычанасць Гайнаўскага павета вялікая і мы рады, што ў 2015 годзе ўдалося нам не павялічваць даўгоў. З Рэгіянальнай абрахункавай палаты атрымалі мы ўжо станоўчую ацэнку праекта бюджэту павета на 2016 год і паставім яго на разгляд на сесіі Рады павета 17 снежня.

**— Якія ў вас інвестыцыйныя планы на 2016 год?**

На 2016 год мы запланавалі рэалізаваць даўней падрыхтаваныя дарожныя праекты: другі этап мадэрнізацыі дарогі па вуліцы Простай і перабудову дарогі па вуліцы Тарговай, на адрэзку ад вуліцы Простай, да вуліцы Бельскай у Гайнаўцы. Будзем гэта рабіць з такім самым удзелам сродкаў з гарадскога бюджэту, як нашыя грошы. Атрымалі ўжо інфармацыю, што на нашы праекты ёсць зацверджанае дафінансаванне вонкавымі сродкамі. У праекце бюджэту на наступны год мы ўжо выдзелілі 200 тысяч злотых на тэрмамадэрнізацыю школьнага будынка Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і выступаем з праектам дафінансавання гэтай інвестыцыі яшчэ большымі вонкавымі сродкамі. Калі наш праект будзе прыняты і атрымаем вонкавыя сродкі, то ў наступным годзе можна будзе рэалізаваць тэрмамадэрнізацыю згаданага школьнага будынка. Ёсць планы рамантаваць 2 будынкі, якія належаць да Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы, якія абапіраюцца аб вуліцу Бакавую. Ёсць таксама планы мадэрнізаваць вуліцу Боцькаўскую ў Кляшчэлях, калі б былі вонкавя сродкі на рэалізацыю гэтай інвестыцыі. Прадбачваем таксама выканаць праект на мадэрнізацыю дарогі Тарнопаль — Семяноўка.

**— У Гайнаўскім павеце дзейнічаюць аўтамабільны міжнародны пагранпераход у Полаўцах і грузавы чыгуначны пагранпераход у Семяноўцы. Якое іх значэнне для развіцця Гайнаўшчыны?**

— Пагранпераходы — козыр Гайнаўшчыны. Жыхары Беларусі і іншых краін, якія будуць да нас прыязджаць, будуць купляць вырабы ў нашых магазінах і пакідаць тут грошы. Зараз перабудоўваецца шырокі пуць з Семяноўкі ажно да Хрызанова. Каля яго будуць разбудоўвацца нашы суполкі, якія гандлююць з замежжам, павінны ўзнікнуць новыя. Усё гэта будзе ствараць новыя месцы працы. Ад чэрвеня гэтага года дзейнічае пешаходны пагранпераход каля Белавежы, праз які можна перамяшчацца без віз, а толькі за дазволам. Жыхары нашага павета і турысты з іншых мясцовасцей Польшчы могуць пераходзіць мяжу з Беларуссю і захапляцца прыгожасцю Белавежскай пушчы з беларускага боку граніцы.

**— Гайнаўскае стараства супрацоўнічае з рэгіёнамі ў Беларусі і Германіі. Як складваецца гэтая супраца?**

— Супрацоўніцтва паміж нашым паветам і паасобнымі гмінамі Гайнаўшчыны з Пружанскім, Камянецкім і Свіслацкім раёнамі ў Рэспубліцы Беларусь адбываецца ў галіне культуры, адукацыі і гаспадарчага развіцця, таксама з выкарыстаннем вонкавых сродкаў, прадбачаных на трансгранічную супрацу. Нядаўна закончылася рэалізацыя праекта супрацы ў галіне адукацыі паміж Камянецкім цэнтрам карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі і Спецыяльным школьна-выхаваўчым асяродкам у Гайнаўцы, які дзейнічае ў рамках павятовай асветы. У выпадку Германіі мы паспяхова супрацоўнічалі з берлінскім кварталам Берлін-Ліхтэнберг. Нядаўна нашая павятовая дэлегацыя наведала Баварыю, дзе мы пабачылі як на практыцы выкарыстоўваюцца аднаўляльныя крыніцы энергіі. Прадстаўнікі гэтага рэгіёна таксама запрашаюць нас да супрацоўніцтва і прапануюць дапамогу ў прымяненні на практыцы аднаўляльных крыніц энергіі і дапамогу ў галіне тэрмамадэрнізацыі публічных будынкаў у гмінах нашага павета.

**— Дзякую за размову.**

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

## Драўляныя дамы маюць душу

У маёй роднай вёсцы Новае Ляўкова ў Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) яшчэ стаяць 43 драўляныя дамы. Яны найбольш прыязныя для чалавека. У іх свойскі клімат. Хаты найчасцей былі пабудаваны з тоўстых смалістых сасновых бярвенняў (хто ж не любіць паху сасновага лесу). Пры іх будавалі ганачкі (яны як дэкаратыўная частка хаты і як месца адпачынку пасля працы). Архітэктурная разьба выступала каля калонак, на падстрэшніку, шчыце, вятроўках. Гэтыя дэкаратыўныя элементы — працяг агульнага знешняга ўпрыгажэння хаты.

Дамы мелі трохшыбавыя вокны ды маленькія акенцы ў шчытах. Вокны ўпрыгожвалі пры дапамозе шалёўкі, ліштваў і аканіц. Знізу былі падаконнікі, па якіх з акон сцякае вада. У пасляваенны перыяд дахі дамоў былі крыты шэрай цэментна-вапнавай або аранжавай керамічнай чарапіцай. Вуглы дамоў шалявалі гладкімі дошкамі і на іх набівалі арнамент, геаметрычныя фігуры, элементы раслін, выявы кветак або птушак — усё ў суровай сіметрыі. Багацейшыя жыхары Ляўкова куплялі на вуглы дэкарацыйныя драўляныя разьбы. Некаторыя дамы былі абабітыя шалёўкай. Зімой у ашаляваных хатах было куды цяплей.

Зараз бацькоўскія дамы перанялі іх дзеці і яны перабудоўваюць іх пасвойму. Важна, што іхаднаўляюць.



Хата Марыі і Віктара Харкевічаў, Новае Ляўкова

Інакш нічога не асталося б. Гэтак сталася з дзевяццю хатамі. Яны зніклі бясследна. На іх месцы можна сустрэць яшчэ кусцікі бэзу, язміну або чаромхі. А ёсць і так, што месцы колішняй сялянскай сядзібы зараслі буйнай травой, палыном, лопухам, крапівой ды ўсялякім пустазеллем. Дамы з канца мінулага стагоддзя асталіся ў маёй



Хата Мікалая Галубоўскага, Новае Ляўкова

памяці. Шэсць з іх было прыгожых, у тым ліку два з ганачкамі. Пры дамах заўсёды раслі высокія дрэвы: ліпы, бярозы, ясені, вязы і вербы. Восенню было асабліва каляровa. Калі дзьмуў вецер лісце шапацела на галінах дрэў ды ідучаму пад нагамі.

У зімні перыяд у вёсцы пустуе дзесяць дамоў. Старэйшых бацькоў забіраюць у горад дзеці. Да двух дамоў ужо яны ад трох гадоў не вяртаюцца назад. Зімой жыццё ў вёсцы замірае. Пуста і глуха. Заміраюць панадворкі ды замірае рух на вуліцы. Зараз доўгія ночы і розныя сны часта сняцца. Мне сняцца яшчэ жоўтасценныя пахучыя смалой прыгожыя дамы ў Новым Ляўкове. Успамінаю сваё вясковае дзяцінства і даўнія прытульныя дамы аднавяскоўцаў. Жыву ў моцна пастарэлым (амаль стагадовым) ды пачарнелым доме маіх бацькоў. Не пачарнела толькі і блішчыць смала на сценах звонку.

**Тэкст і фота Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Камісія з новым віцэ-міністрам



Злева: Юзэф Ружанскі, Сэбастыян Хвалэк, Рафал Бартэк і Дабеслаў Жэмянеўскі

**У наступным годзе рэвалюцыі ў фінансаванні дзейнасці арганізацый нацыянальных і этнічных меншасцей не будзе. Гэтак вынікае з інфармацыі аб рашэнні новага намесніка міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Сэбастыяна Хвалка, прадстаўленага на апошнім у гэтым годзе пасяджэнні Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей (СКУіНіЭМ). Цалкам магчыма, што павелічэнне квот для гэтай дзейнасці будзе адбывацца ў бліжэйшыя некалькі гадоў, калі толькі — як адзначыў падчас пасяджэння намеснік міністра — у адпаведнасці з прадбачаннем урада Беаты Шыдла будзе павялічаны даход дзяржаўнага бюджэту. Тады можа ўзнікнуць першы з культурных цэнтраў нацыянальных меншасцей. Які і ў якой формуле, пакуль невядома.**

— Я ўпэўнены, што наша супрацоўніцтва ў рамках Сумеснай камісіі будзе праходзіць у духу ўзаемнай павагі і разумення, — адкрыў пасяджэнне намеснік міністра, а заадно сустаршыня Камісіі. — У аснове нашых дзеянняў мусіць быць супрацоўніцтва і разуменне. Мы павінны шукаць вырашэння праблем у рамках польскага заканадаўства, а не ствараць іх. Я спадзяюся, што будзем саюзнікамі.

Пасяджэнне СКУіНіЭМ (кансультатыўны орган) 16 снежня мела больш пазнавальны характар. Члены Камісіі з боку меншасцей мелі магчымасць пазнаёміцца з дзейсным ад паловы лістапада намеснікам міністра Хвалкам, адказным у міністэрстве ўнутраных спраў і адміністрацыі за справы меншасцей у ведамстве, у якое ў рамках ведамасных рэарганізацый зробленых урадам ПіС вярнуліся яны пасля многіх гадоў з міністэрства лічбавізацыі і адміністрацыі. Хоць падчас сустрэчы афіцыйна не было пра гэта гаворкі, аднак, у кулуарах сустрэчы можна было пачуць крытычныя заўвагі ў дачыненні да вета прэзідэнта Анджэя Дуды, якое неадкладна пасля прысягі ён зрабіў адносна змяненняў у закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях (у тым ліку меркаванага пашырэння магчымасці выкарыстання мовы меншасці ў якасці дапаможнай не толькі ва ўправах гмін, але і павятаў). Сустаршыня Камісіі з боку меншасцей Рафал Бартэк (нямецкая меншасць) у размове з журналістамі незадоўга да сустрэчы выказаў спадзяванне:

— У ходзе папярэдняй сустрэчы, перад пасяджэннем Камісіі, мы гаварылі пра вета ў коле прадстаўнікоў меншасцей. За выключэннем дзвюх меншасцей (армянскай і новапрызначанага прадстаўніка яўрэйскай — М. Х.), мы падпісаліся пад лістом да прэзідэнта, у якім выказалі шкадаванне, што такая дэ-факта касметычна-тэхнічная папраўка была ветавана, што нас моцна здзівіла. Мы выказалі гатоўнасць сустрэцца з прэзідэнтам, спасылаючыся на папярэднія навагоднія сустрэчы з прэзідэнтам Камароўскім, каб мы таксама мелі магчымасць азнаёміць яго з праблемамі меншасцей у больш шырокім вымярэнні.

Адкрываючы пасяджэнне, намеснік міністра Хвалэк паведаміў:

— Я буду старацца, каб сродкі для рэалізацыі задач, накіраваных на захаванне і развіццё культурнай самабытнасці меншасцей, не былі меншыя, чым у папярэднія гады. Вядома, мы разумеем, што для гэтай мэты вылучаем рэсурсы з дзяржаўнага бюджэту, а яго становішча залежыць ад шматлікіх унутраных і знешніх фактараў. Тым не менш, асабіста я зраблю ўсё магчымае, каб гэты ўзровень быў здавальняючым.

У кулуарах сустрэчы, калі «Ніва» распытвала яго, ці рэальныя ёсць магчымасці ў будучым і ў наступных гадах павелічэння аб'ёму сродкаў для дзейнасці арганізацый нацыянальных меншасцей, адказаў:

— У бліжэйшыя некалькі гадоў, верагодна, будуць большыя ўплывы ў бюджэт. Дзеянні, якія мае намер распачаць урад, верагодна, павысяць фінансавыя магчымасці дзяржавы, што не выключае, што бенефіцыянтам агульнага эканамічнага росту, прыбыткаў краіны будуць таксама нацыянальныя меншасці.

Калі мы ў яго спыталі, ці прадбачвае арганізацыйна-кадравыя змены ў сувязі з аддзелам меншасцей МУСіА, сказаў:

— У гэты раз мы прыглядаемся да структуры ўсяго міністэрства. Пачатак 2016 г. дасць ужо плён у выглядзе некаторых змен, паляпшэння яго функцыянавання. У рамках рэарганізацыі і арганізацыі ў ведамстве зможам палепшыць функцыянаванне ўсіх структур, у тым ліку дэпартамента па справах меншасцей. Мы праводзім унутраны аўдыт. Ці будуць кадравыя змены, пабачым. Безумоўна, будзе палепшана пытанне эфектыўнасці дзеянняў.

Адказваючы на пытанне, якія — на яго думку — найбольш важныя праблемы стаяць перад беларускімі асяроддзямі, загадкава сказаў:

— Трохі аб праблемах беларускага асяроддзя я чуў. Будзем прыглядацца да іх. Бліжэйшыя гады пакажуць наступствы нашых дзеянняў у гэтых адносінах.

— Што вы маеце на ўвазе? — пыталіся мы далей.

— Тое я зараз пакінуў бы ў таямніцы. Наконт гэтага рашэнні будуць прымацца ў больш позні тэрмін, у адпаведнасці з напрамкамі дзейнасці міністэрства.

У пасяджэнні ў якасці госця ўдзельнічаў Станіслаў Гускоўскі, які ў папярэднім урадзе быў намеснікам міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, і курыраваў праблемы нацыянальных і этнічных меншасцей. Цяпер ён з'яўляецца віцэ-старшынёй парламенцкай камісіі па справах меншасцей. У гутарцы з намі ён выказаўся наконт пытання, што далей з папраўкамі ў закон аб меншасцях пасля прэзідэнцкага вета:

— Паколькі прэзідэнт ветаваў іх дзень пасля сваёй прысягі, паказаў, што новая ўлада інакш бачыць справы нацыянальных і этнічных меншасцей. Як дэпутаты, мы ў кожны момант можам прадставіць іх на разгляд Сейма, але ў гэтым палітычным ладзе і пры такой атмасферы ў парламенце асудзім на няўдачу. Мы павінны пачакаць і, можа, удасца нам абмеркаваць змены не ў вострай сутычцы з парламенцкай большасцю, але пераканаўшы яе, каб яна пагадзілася на іх, можа, з невялікімі зменамі.

Юзаф Ружанскі — дырэктар дэпартамента рэлігійных канфесій і нацыянальных ды этнічных меншасцей (раней займаў гэтую пасаду ў МАіЛ), прадставіў Камісіі інфармацыю аб рашэнні міністра аб размеркаванні грошай, прызначных міністэрствам меншасным арганізацыям на іх дзейнасць у 2016 годзе. У цэлым на гэтую мэту ва ўсёй краіне вылучаецца 15 млн. 576 тыс. злотых, на 663 тыс. злотых. менш чым у папярэднім годзе. З агульнага ліку 734 паступіўшых заявак фінансавай падтрымкай пакарыстаюцца 470 праектаў (у мінулым годзе адпаведна 661 і 453). Сярод 83 «беларускіх» заяў 70 атрымалі станоўчае рашэнне (у мінулым годзе, адпаведна, 88 і 73). Пасля некалькіх гадоў прыпынення фінансавання (пакаранне за неналежны разлік датацыі) грошы былі прызначаны Беларускаму аб'яднанню студэнтаў на арганізацыю чарговага выпуску «Басовішча» (100 тыс. злотых). Таксама фонд «Віла Сакрата» можа разлічваць на падтрымку МУСіА на рыхтаваны ім сямнаццаты «Трылог» (19 тыс. злотых), якога праграмная форма ў мінулым годзе выклікала пярэчанні міністэрскіх чыноўнікаў. Пераглядаючы табліцу фінансавай падтрымкі (поўная інфармацыя даступная на сайце МУСіА), можна заўважыць, што БГКТ атрымае 141 тысячу злотых на фестываль «Беларуская песня».

Аналіз сёлетняга размеркавання міністэрскіх сродкаў для «рэалізацыі задач, накіраваных на абарону, захаванне і развіццё культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей і развіцця рэгіянальнай мовы» — у адным з бліжэйшых нумароў «Нівы», а ў наступным працяг справаздачы з пасяджэння СКУіНіЭМ, у тым ліку пра становішча пасля падзелу грантаў на наступны год і ацэнку аб'яў віцэ-міністра Хвалка беларусамі, якія засядаюць у СКУіНіЭМ — Янам Сычэўскім і Славамірам Іванюком ды пра «цыганскі бунт» — супраціў прадстаўнікоў ромскіх асяроддзяў у дачыненні да прызначаных ім субсідый і прынцыпаў іх размеркавання.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

**Анатоль Ахрыцюк** шмат гадоў быў бургамістрам горада Гайнаўкі. І быў гэта яго такі афіцыйны імідж. Але за гэтай вядомай афіцыйнай маскай хавалася менш вядомая дапытлівая душа. Мне пашанцавала пазнаёміцца з напісанай ім сямейнай гісторыяй, экскурсам у вельмі займальную гісторыю роду Ахрыцюкоў, які з падбелавежскіх Пагарэльцаў рассеяўся па амаль цэлым свеце...

# Багатая біяграфія



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— Што падштурхнула Цябе заняцца генеалогіяй, пацікавіцца сваімі продкамі?**

— Калі я выйшаў на пенсію, тады паспакайнела ад розных праблем галава і з'явіўся такі нейкі штуршок, каб глыбей заняцца праблемамі сям'і.

**— Гэта быў штуршок, які падштурхнуў да дзеяння, але ж, мабыць, думкі былі ўжо раней...**

— Былі, але не было ўмоў, каб канкрэтна гэтым заняцца.

**— Аднак я думаю, што гэты штуршок даў Табе бацька, бо ў генеалогіі ўсё ідзе ў бацькавым напрамку, у бацькавае мінулае, а пра маці нічога не згадваецца. Мабыць, мама маўчала, а тата расказваў, бо ж у яго і багатая біяграфія.**

— Калі бывала, тата нешта расказваў, то тады гэта праходзіла неяк побач, і я занадта не дапытваўся. А цяпер шкадую, што многае прапусціў, што шмат што з расказанага не захавалася ў памяці.

**— Расказваў тата. А ці мама таксама расказвала?**

— Расказвала таксама.

**— А чаму мамінае мінулае аказалася па-за генеалогіяй?**

— Бо я заняўся гісторыяй роду Ахрыцюкоў. Мама была з роду Падлашчыкаў, а ейная мама была з роду Зялінскіх з Ляўкова.

**— То ў нас нейкае сваяцтва, бо і мая мама з Зялінскіх. Але вяртаемся да запісанай генеалогіі. Тата нарадзіўся ў 1911 годзе, значыць, мабыць быў у бежанстве. Ці нешта пра бежанства расказваў?**

— Расказваў. Ягоную сям'ю вывезлі на Кубань. Было там добра, там былі такія ўраджаі, што можна было сеяць збожжа раз на пару гадоў і хапала б для нармальнага жыцця.

**— То чаму вярнуліся?**

— Пачалася рэвалюцыя і татаў бацька, значыць мой дзед, пастараўся ўсіх пазбіраць, бо некаторыя хлопцы былі ў арміі, некаторых было цяжка знайсці, бо апыніліся ў прытулках. Шкадую, што гэтага ў пару не запісаў, бо ўжо пасля не было каго распытацца.

**— Але ўсё ж такі — калі там было так добра, то чаму, аднак, вярнуліся?**

— Штосьць цягнула на сваё. Як туды ехалі, то з верай, што гэта толькі часова.

**— Вярнуліся сюды і зараз, у 1923 годзе памёр дзед; Твайму тату было тады раптам дванаццаць гадоў. Як далей склаўся татаў лёс?**

— Ім заняліся старэйшыя браты і паслалі ў дзяржаўную дрэваапрацоўчую школу ў Гайнаўку. Браты аплачвалі ўсе расходы і тата школу закончыў.

**— З чаго татавы браты, якія жылі ў Пагарэльцах, мелі грошы?**

— Працавалі ў лесе, было крыху поля і жылі яны даволі добра.

**— Тата вывучыўся на сталяра...**

— На сталяра, але не прыйшлося яму працаваць па гэтай прафесіі. Неўзабаве пайшоў у войска, а пасля войска ажаніўся, пайшоў у прымы ў Скупава. І так ён не стаў сталяром, хаця сталярскія прылады ў яго былі і ён пры нагодзе вырабляў што было трэба. І я ад яго крыху сталярству падвучыўся.

**— Наступае 1939 год, успыхвае вайна, тату мабілізуюць у войска, яго часць разбіваюць і распускаюць і ён вяртаецца дахаты. Але неўзабаве, у 1941 годзе яго зноў мабілізуюць і ён трапляе на Буг...**

— Ён па вайсковай спецыяльнасці быў сапёрам і яго накіравалі на Буг для будовы ўмацаванняў. Калі выбухнула чарговая вайна, ён трапіў у лагер для ваеннапалонных каля Белай-Падляшскай. Ён быў моцным, здаровым мужчынам, а там, у лагеры, вельмі многа палонных памірала ад голаду, ад хвароб, ад раненняў. І штодзень там многіх хавалі. І тата не быў пэўны, ці выжыве, але яго пры жыцці трымала пісьмо ад мамы, на якім яна адрысавала пальчыкі сына Ваські. І калі тата глядзеў на тую ручку, то гэта запраўляла яго моцнай воляй жыцця. Ён умеў вастрыць ручныя пілы для пілавання драўніны і яго бралі ў лес зрэзваць дрэвы. Вартаўнік, які даглядаў рабочых, рассакрэціў, што некаторых будуць вызваляць, асабліва ўкраінцаў. І такі момант наступіў і тата падаўся ўкраінцам. І яго адпусцілі. Ён ужо арыентаваўся, у які бок трэба кіравацца. А быў тады лістапад. Дайшоў ён да Буга, зняў усё з сябе, вопратку моцна звязаў, каб не намокла, узяў яшчэ нейкую жэрдку і пераплыў Буг. Ён ведаў, што трэба ўвесь час варушыцца і ён цэлы час бег, бег, бег... Зайшоў ён у першую хату, там яго прынялі і накармілі. Неяк знайшоў сваю сям'ю, якая была са Скупава выселена ў Крыніцкія каля Заблудава. Неўзабаве можна было перасяліцца ў Нараўку ў былыя жыдоўскія хаты і наша сям'я гэтым пакарысталася. У час акупацыі тата працаваў у лесе. Канчаецца вайна... Татава прозвішча Ахрыцюк, а змагарнае падполле шукала Ахрымюка, які служыў у бяспецы. Тату ўзялі на прыцэл, але ў пару высветлілася розніца і ўдалося спакойна пражыць. Пасля сталі адбудоўвацца ў Скупаве. Тата стараўся сам адукавацца і ўсім сваім дзецям запэўніў таксама вышэйшую адукацыю. Тата абрабляў гаспадарку, дарабляў у лесе і пры будове чыгункі. Быў таксама вазаком у лесе — вывозіў фурманкай калоды на склад, а мы, хлопцы, яму памагалі. І я навучыўся паднімаць лядай, кіраваць крывулямі. Нялёгка тады было — трэба ж было пасля вайны адбудоўвацца, сталі на сілу заводзіць калгасы...

**— А ў Скупаве заснавалі?**

— Не, не дайшло да гэтага. Быў час абавязковых паставак, было цяжка сабраць грошы на падаткі, але неяк выжылі.

**— У апісанні сямейнай гісторыі згадваеш, што пасля вайны мелі выселіць Пагарэльцы недзе ў Прусію; ці Скупава таксама мела быць выселена?**

— Не, толькі тыя падбелавежскія пушчанскія вёскі. Я цяпер шкадую, што не запісаў многіх сямейных расказаў...

**— Тады быў іншы час, іншыя справы займалі маладога тады чалавека. Я, вось, заглядаю ў кнігу пра гайнаўскі белліцэй, які ў 1967 годзеканчае Анатоль Ахрыцюк. Далей ён падаецца ў Люблін ва Універсітэт Марыі Складоўскай-Кюры, канчае той універсітэт... І што далей? Была нейкая фундаваная стыпендыя?**

— Ну, я з хаты і не за моцна хацеў браць грошы на свае выдаткі, бо ведаў, што бацькі цяжка працуюць, таму і разглядаўся за фундаванай стыпендыяй. На дошцы аб'яў я пабачыў, што прэзідыум Павятовай рады з Сейнаў разглядаецца за будучым працаўніком. Я ўзяў тую стыпендыю, нават дыпломная мая праца была звязана з Сейнамі, адбываў там практыку. Але вось на самым фінішы штудыяў мне запрапанавалі працу на Медыцынскай акадэміі ў Беластоку на пасадзе асістэнта па эканоміцы аховы здароўя. А тады было такое правіла, што калі хто ішоў на працу ў вышэйшую навучальную ўстанову, тады яго вызвалялі ад абавязку адрабляць узятую раней фундаваную стыпендыю і вяртаць яе. Я пакарыстаўся гэтым. Пазней мне запрапанавалі працу ў Чорнай-Беластоцкай, стаў я там на пасаду сакратара гмінна-гарадской управы. А пасля, калі былі створаны новыя ваяводствы пацягнулі мяне новыя выклікі і я трапіў у Ломжу. І там я, маючы 26 гадоў, ніколі не маючы дачынення з броварнай справай, стаў загадчыкам ломжынскага бровара. Гэта быў вялікі завод, найбуйнейшы бровар у рэгіёне, у якім у разгар сезона працавала каля трохсот людзей. Там на пасадзе дырэктара мае папярэднікі вытрымлівалі не болей сямі гадоў; я вытрываў два гады.

**— А чаму цяжка было трымацца на той пасадзе?**

— Пасля вайны ў Польшчы былі збудаваны толькі два новыя бровары: у Серпцы і ў Ломжы менавіта. У тую эпоху прэміраваліся інвестыцыйныя зберажэнні і ломжынскі бровар быў будаваны ашчадна, таму завод быў недаінвеставаны, не было, напрыклад, складоў. І калі мы атрымлівалі, прыкладна, тоны цукру, то яго не было дзе трымаць — трымалі яго пад адкрытым небам. У той час і тэхналагічныя лініі бровара былі зношаны, а была гэта другая палова 1970-х гадоў, калі эканоміка краіны ўжо рэзка пайшла на спад. У той гаспадарчай задышцы не было відаць шансаў на выпраўленне інвестыцыйных недахопаў, на мадэрнізацыю.

**— У той час ломжынскае піва мела свой насычаны, адметны чым піва з іншых бровараў смак. З чаго ён браўся, ці з нейкіх арыгінальных кампанентаў?**

— Бровар атрымліваў вельмі якасную ваду, і піваварня была добрая. Да таго ж, каб атрымаць добрае піва, яно мусіць добра выспець, тады яно трывалае і ў яго адметны смак. І менавіта ломжынскае піва мела далікатны смак і таму было вялікае зацікаўленне гэтым півам. Аднак у той час вытворчасць размяркоўвалася адміністрацыйна і бровар меў сваю тэрыторыю для збыту — наваколле Ломжы. Аднак ломжынскі бровар яшчэ экспартаваў сваё піва, быў час, што яго вывозілі і ў ЗША, і ў Венгрыю, і ў Балгарыю. І калі тады ішла экспартная прадукцыя, трэба было захоўваць строгі тэхналагічны рэжым, а гэта адбывалася коштам паслаблення таго ж рэжыму для піва на краёвы рынак. Вось, калі немцы будавалі завод стружкавых панэляў у Граеве, якое было ў размеркаванні сувальскага бровара, яны хацелі наша экспартнае піва і патрэбны быў спецыяльны дазвол, каб яго ім пастаўляць.

**— Геркаўскі росквіт вяне...**

— Я атрымаў прапанову працы ў Ваяводскім згуртаванні пажарных каманд у Ломжы. І гэта была праца, якую я ўспамінаю найцяплей — была гэта праца з грамадскімі энтузіястамі. А пасля нешта пацягнула мяне ў родную старонку — у 1981 годзе пераехаў я ў Гайнаўку і стаў на працу ў Гаймаклесе, працаваў там 16 гадоў, у асноўным на пасадзе эканамічна-гандлёвага дырэктара. А пазней прыняў выклік працы ў самакіраванні Гайнаўкі.

**— У 1998 годзе становішся граданачальнікам Гайнаўкі; як успамінаеш гэты час? Гэта быў для горада цяжкі час, калі карыстанне пушчанскай сыравінай абмяжоўвалася, калі Гайнаўка стала траціць крыніцы сваёй сілы...**

— Я меў досвед працы ў самакіраванні яшчэ з Чорнай-Беластоцкай. Ды і ў Гайнаўцы я, пакуль стаў бургамістрам, быў гарадскім радным. Сапраўды, калі я стаў на пасаду, тады быў складаны час з Белавежскай пушчай.

**— Гэта быў, як мне здаецца, найцяжэйшы перыяд для Гайнаўкі?..**

— Але тады нам удалося вытрымаць і тыя псеўдаэколагі, што прычапіліся да Пушчы, змякчэлі. Пушча асталася пад адміністрацыяй надлясніцтваў. Тады міністрам, які кураваў Пушчу, быў Ян Шышка, ён цяпер таксама вярнуўся; я яго добра ўспамінаю — гэта ляснік і любіцель прыроды. Ён тады ўвёў у планы цэнтральнага бюджэту датацыі для самаўрадаў з тэрыторыі Белавежскай пушчы. Тады гміны з нашага павета атрымалі датацыі на разбудову санітарнай каналізацыі, водаправодных ліній, на пазнейшую будову дарог, на мадэрнізацыю цеплаагістраляў. На той час была гэта даволі значная фінансавая падтрымка.

**— Ну, і што ўдалося, а чаго не ўдалося тады зрабіць?**

— У пачатку маёй працы была здадзена ў карыстанне ачышчальня сцёкаў, хаця не поўнасцю закончаная. На мэтавую перапрацоўку каля шасці тысяч кубаметраў сцёкаў, ачышчальня атрымлівала тады толькі каля дзвюх тысяч, бо горад не быў сканалізаваны. Трэба было пракласці і водаправоды, і каналізацыю. Гэта была работа мала бачная: капаеш, разрушаеш да непрыезнасці вуліцы, засыпаеш. Было шмат праблем, але гэта быў час інтэнсіўнай будовы падземнай інфраструктуры Гайнаўкі. Пасля перайшлі да будовы вулічнага насцілу — была гэта маштабная работа: на 230 вулічных найменаванняў у мой тэрмін 130 з іх атрымала асфальтавы насціл.

**— Ці ўсю Гайнаўку ўдалося тады сканалізаваць?**

— У прынцыпе так, хаця нешта асталося, але гэтая праца надалей прадаўжаецца. Дадам, што мяне займала не толькі кіраванне горадам. Калі я вярнуўся ў Гайнаўку ў 1981 годзе, адразу спаткаў свайго выхаваццеля Васіля Сакоўскага, які падказаў, што добра было б наладзіць з'езд выпускнікоў. І мы тады той першы з'езд наладзілі, мне даручылі стаць старшынёй арганізацыйнага камітэта. Тады былі іншыя чым цяпер умовы арганізавання такіх мерапрыемстваў — трэба было мець дазволы ад адпаведных служб, былі рэгламентаваныя ліміты размеркавальных напояў. Але з'езд удаўся, пасля працаваў пры ладжанні другога з'езду, і трэцяга — гэта пакінула вельмі сімпатычныя ўспаміны. Але ўсё яшчэ астаецца шмат што зрабіць.

**— Жадаю тады поспехаў ды дзякую і за размову, і за выкананую для Гайнаўкі, і для нашага шырэйшага наваколля працу.**

Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# У кожнай сям'і былі бежанцы, толькі мы пра гэта не ведаем!


Рэжысёрка Іаанна Троц


Магдалена Гаўрылюк, Марыся Краўчык, Куба Мацяюк і Міхал Скарбіловіч

*Самай важнай культурнай падзеяй 2015 года мы палічылі спектакль «Бежанства», які паставіла* **Іаанна Троц** *разам з вучнямі гайнаўскага і бельскага белліцэяў. Прэм'ера адбылася 14 снежня 2014 года. Сустракаемся праз год у беластоцкім «Склепе з культурай». Гэта ўжо іх 19 выступленне на сцэне. У пастаноўцы іграюць чатыры цудоўныя маладыя асобы:* ***Магдалена Гаўрылюк, Марыся Краўчык, Куба Мацяюк і Міхал Скарбіловіч.*** *Спектакль «Бежанства» пастаўлены на аснове аднайменнага рамана Бажэны Дэм'янюк, падляшскі пераклад належыць Яну Максімюку. Сцэнарый, насычаны гістарычнымі фактамі, апавядае пра лёс сям'і з Плёсак, яе жыццё ў царскай імперыі, рэвалюцыю і вяртанне на Радзіму.*

*Мы правялі гутарку з ліцэісткай* ***Магдаленай Гаўрылюк,*** *якая ад пачатку выступае ў «Бежанстве» :*

**„Зорка":** — *Магда, калі Ты першы раз пачула пра бежанства?*

**Магдалена Гаўрылюк:** — У маёй сям'і пра бежанства не гаварылі. Аднак калі мае бабуля і дзядуля даведаліся, што буду выступаць у такім спектаклі, яны сталі ўспамінаць. Прыгадвалі нейкія эпізоды, паасобныя здарэнні. Думаю, што для іх гэта быў жахлівы жыццёвы досвед, пра які цяжка было гаварыць. Яны, мабыць, баяліся гаварыць, бо там было многа страху. Так што ў сям'і не шмат гаварылі пра бежанства. Больш я даведалася з кніжак, і асабліва ад пані Іаанны Троц.

**З:** — *Гэта было сто гадоў таму. Ты адчуваеш сябе ў гэтай гісторыі, яна для Цябе асабістая?*

**МГ:** — Адчуваю, думаю, таму што я прымала ўдзел у спектаклі. Спачатку, калі ў нас былі яшчэ рэпетыцыі, мы не разумелі наколькі гэта важная для людзей падзея. Мы многа смяяліся, жартавалі. Аднак пасля прэм'еры здарылася такая пераацэнка. Мы былі ўражаны рэакцыяй публікі. Людзі моцна перажывалі наш спектакль. Тады і наш падыход памяняўся, мы зразумелі, што робім нешта важнае...

**З:** — *Ваш спектакль на падляшскай мове. Калі Ты пачала размаўляць па-свойму?*

**МГ:** — Гэта было яшчэ да спектакля. Мой тата заўсёды, калі гавару да яго па-польску, прыкідваецца быццам мяне не разумее. Кажа, каб я гаварыла па-свойму! Так што я была вымушана навучыцца. А ці гавару з аднагодкамі? У мяне дзве сястры, дык мы ўжо з малодшай пачалі размаўляць па-свойму.

**З:** — *Цікавая сямейка! Адкуль Твае бацькі родам?*

**МГ:** — Тата з Кленік, мама з Навін каля Ласінкі, яе дзявочае прозвішча Каранецкая.

**З:** — *Што найбольш Табе запамяталася за гэтыя 19 выступленняў?*

**МГ:** — Цяжка сказаць, кожнае выступленне іншае. Усё залежыць ад публікі — ці гэта малодшыя вучні, ці старэйшыя людзі. Напэўна старэйшыя больш перажываюць, там сум і слёзы. А малодшыя яшчэ не ведаюць, пра якую падзею гаворым.

**З:** — *Ці здарылася, каб хто з малодшых сяброў пацікавіўся вашай гісторыяй? Распытваў пра бежанства?*

**МГ:** — На жаль, яшчэ такога не было. Але калі на спектакль прыйшлі гімназісты з нашага белліцэя, яны ставілі пытанні, напрыклад, ці былі бежанцы ў нашых сем'ях. Тады яны пачулі, што гэта было ў кожнай сям'і, толькі мы пра гэта не ведаем.

**З:** — *Ты вельмі прыгожа і праўдзіва выглядаеш на сцэне. Можа думаеш пра акцёрства?*

**МГ:** — Думаю, многа думаю, мне хочацца і не хочацца! Думаю, што паспрабую пазмагацца за акцёрскую школу.

**З:** — *Зычым поспехаў!*

## Елка
Міра ЛУКША

**Зялёныя іголкі чула
заколюць у сэрца,
калі вецер марозны
зайграе ім скерца.
Лепш жыві ў лесе,
не прыходзь у хату,
каб ёлкай святочнай
стаць у нас багатай.
Пад навіслым голлем –
прытулак звярушак.
На жывых галінах
лётных птушак гушкай.
Жыццё новае ў шышках
узгадоўвай плённа,
ялiначка з лесу,
сястрычка зялёная...**

## УВАГА КОНКУРС! № 52-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 3 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Гэты знак не проста знак,
а маўківа чараўнік.
Ён кітайскі нават рыс
ператворць лёгка ў рысь.
(адгадайце, якая гэта літарка)**

**Адказ на загадкі № 48-15: раніца, дождж.
Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Ігар Кардаш з Нарвы, Магдалена Стоцкая, Карнелія Барэчка, Альжбета Харкевіч з Нараўкі. Віншуем!**

# Радасць ад беларускай мовы!



З пачаткам новага навучальнага года мы завіталі ва ўсе пачатковыя школы і гімназіі, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Сэрца засталося ў Белавежы! Ну, не крыўдуйце, ужо паясняем, што там такое займальнае. У час сустрэчы з наймалодшымі вучнямі мы спыталі, хто з іх пабываў ужо ў Беларусі. У адказ амаль усе дзеці падплялі ўгару ручаняты.

— Вы можа з'ездзілі з класам на экскурсію?

— Не, не, не!

— Дык як вы туды патрапілі?

— На роварах, разам з бацькамі, — заяўлялі па чарзе дзеці з першага, другога і трэцяга класаў. З'ездзілі па сваім жаданні, каб пабачыць... Дзеда Мароза.

Ніхто з нашых сяброў не наракаў на стомленасць. Наадварот, далёкая дарога праз пушчу ўсім падабалася. Гэтыя маленькія дзеткі ўжо разумелі, што беларусы жывуць па абодвух баках мяжы, што беларускі народ мае свае кніжкі, фільмы, песні, тэатр, стравы, абрады. Пра гэта ўсё апавядаюць ім людзі, якіх запрашаюць на «беларускія вечары», арганізаваныя ў школе.

Новая якасць навучання заключаецца яшчэ ў сапраўднай інтэграцыі. Амаль палову з сарака ўсіх навучэнцаў складаюць дзеці польскай нацыянальнасці, якіх бацькі прыехалі ў Белавежу часта з адлеглых закуткаў Польшчы. Яны нярэдка першыя энтузіясты беларускай мовы, іх энергія і вынаходлівасць адразу перадаюцца не толькі мясцовым дзецям, але і дарослым. Нашы бацькі глядзяць і думаюць: *калі яны ходзяць на беларускую мову, дык, відаць, нешта ёсць файнага ў нашай культуры!*

А настаўніца Анджаліна Масальская ўмее ўсё з усім састроіць, зладзіць ды перадаць важныя веды, мову, граматыку...

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа



### Купіў татулька ёлку

Купіў татулька ёлку,
Прывёз яе дахаты.
Упрыгожыў анёлкам
І цацкамі багата.

— А чаму ты цукеркі
Так высока паўкладваў?
— Каб ты іх, Валодзя,
Не з'еў да Калядаў.

### Найлепшая праца

Настаўнік пытае:
— Скажыце мне дзеці,
Хто найлепшую мае
Працу на свеце?

— Хіба Святы Мікалай, —
Адказаў Валодзя. —
Яго праца — гэта Рай,
Адзін дзень у годзе!

## ЦІ ЁСЦЬ ПРАЎДА У СВЕЦЕ?

*(беларуская казка, пачатак у № 51)*

— Што ты, воўча! — здзівіўся чалавек. — Я цябе ад смерці выратаваў, а ты мяне з'есці хочаш... Не, гэта не па законе!

— Як не па законе? — злуецца воўк. — Гэта наш, воўчы, закон.

— Дык хіба няма праўды на свеце? — не згаджаецца чалавек.

— Няма! — кажа воўк.

— Не, — кажа чалавек, — праўда ёсць! Давай папытаемся ў каго хочаш.

— Давай! Толькі хутчэй!

Пайшлі яны разам дарогаю. Сустракаюць сабаку, худога, скура ды косці.

— Сабака, — спыніў яго чалавек, — рассудзі ты нас.

— А які ў вас суд? — пытаецца сабака.

— Ды так і так, — пачаў расказваць чалавек.

Выслухаў сабака і кажа:

— Няма праўды на свеце! Пакуль я быў малады і шустры, гаспадар мяне карміў, даглядаў. А як састарэў, дык зусім з двара прагнаў. Цяпер вось іду ў лес — можа які галодны воўк з'есць, каб не мучыцца доўга.

— Не, не — перабіў яго воўк, — спачатку я чалавека з'ем!

Ляснуў зубамі і кінуўся да чалавека.

*(працяг будзе)*

Клаўдзія СІКОРСКАЯ
ПШ у Міхалове

## Мары

Заплюшчу вочы
І я ўжо ў іншай краіне
Плыву парусной лодкай
Чую вецер у валасах
Чую яго голас
Над маёй галавой бачу блакіт неба
Сонца ахутвае мяне
сваімі промнямі
Серабрыстыя хвалі б'юць у лодку
Знаходжуся пасярэдзіне нічога
Далёка ад людзей
Але я нічога не баюся
Плыву, вызначаю сваю дарогу
Якой заўсёды буду ісці
Яшчэ хвіліна і будзе зямля
Некалькі пальм, некалькі камянёў
Я даплыла, дабілася
Адчыняю вочы і зноў бачу
Старую канапу, тэлевізар,
палічку са шкла
І іншую хатнюю дробязь...

## Польска-беларуская крыжаванка № 52-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47-15:**

Вушы, ер, дождж, мука, ара, макарона, шар, краса, Орша, дуб, Нарва, Ада, аканом. Маштаб, штука, карова, дар, рак, жонка, ежа, Адам, суд, парабак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Магда Рошчанка, Іаанна Нікіцюк, Марлена Лабаноўская** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронская, Вольга Федарчук, Бартэк Місяюк, Іванка Карсунскі** з Беластока, **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Віялета Смалюк, Аляксандра Куптэль** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rosa / Kosmita | | Strąk | | Sporo / Ira | Ty | | | | |
| | | | | | | Smak / Miedza | | Kukła / Żuk | |
| Starzec / Kosmos | | | | | | List | | | |
| | | | | | Lepszy | | | Zachariasz | |
| | Mapa | | Chińskie imię | Marsz | | | Za / Cudo | | |
| | | | Miejsca / Kula | | | | | | Art |
| | Sęk | Szeptucha / Fa | | | | | | | |
| | Farsz / Starszy | | | | | Dar | | | |
| | | | | | | Art | | | |

**Рэдакцыя «Нівы» распачынае друк васьмі адрэзкаў знакамітай прозы Марыі Сашкі пра лёс, жыццё і ахвяры жыхароў ваколіц Нараўкі і Белавежскай пушчы.**

**На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.**

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка I

У гарадскім «Доме Людовым» Антоша Вінярскі даваў канцэрт. Ён іграў Шапэна: прэлюдыі, паланэзы. Вальсы. Найбольшыя бравы атрымаў за Вялікі Вальс, які называюць Брыльянтавым.

— «Уступ тут да яго кароценькі, — перадаваў Антоша сваім слухачам веды з варшаўскай кансерваторыі, — толькі чатыры такты, ды ўсё з адной нотай «сі-бэмоль», рознай вартасці-даўжыні, якія тут толькі вызначаюць рытм і не прадвяшчаюць, як здаецца, надзвычай урачыстага фіналу.

Гэты вальс не напамінае сентыменталізму пазнейшых венскіх Штраўсаў. Тут блішчыць высшы парыжскі свет з-над Шанс Элізэй. Танцавальныя тэмы — іх тут сем — пачынае (праз свае «pas») танацыя Es-dur, лёгка пераходзіць у вір As-dur — такое малюсенькае, нібы скерца, чаканне, напамін, якое-які выліваецца, пераліваецца — як пацёрачкі сыплецца, як брыльянцікі-бусікі, як бліскучы — зранку на траве — расіначкі...»

Антоша іграў элегантна, па-майстэрску, бліскавіцай нёсся па клавішах... Так і хацелася слухачам устаць і збіраць па зале, з падлогі, рассыпаныя цудоўныя гукі-бліскучынкі-слязінкі-гарошачкі-бомблікі-пузырочкі...

***

Малады Вінярскі наровіў ехаць у Варшаву. Першага верасня — у яго экзамены з шапэнаўскіх вальсаў і мазуркаў.

У доме не ўнімаўся перапалох. Здавалася — гэта гудзе ў ім стаячая за клуняй вялікая пасека вулляў, а не «царственный дворец» — як казаў заўсёды дзедка Іакім; не «з**а**мак» — паводле слоў «варшавяка» Антошы; не гэты прыгожы ды вялікі — з пахучых смалой сосна́ў — новы дом, што прыпісаны да Ваўкавыскай вуліцы, хоць ён стаіць далей, збоку, за дарогай і вялікім лугам, за рэчкай Нараўкай, што закручвае тут пад івы і бярозы, і плыве, лянiва, пад самай Пушчай...

Уся хатняя гурба гаварыла студэнту:

— Ну, якая тут табе цяпер у сталіцы музыка? Якія сёння ў Варшаве вальсы? На свеце неспакойна! Прафесар пачакае — што ён, не чалавек? Вышлем тэлеграму! Заняткі ж у кастрычніку — будзе час! Выясніцца! А як вайна?..» Найбольш прасіў дзядуля...

— Дзядзюсь, калі так, вайна — яна і тут будзе! — гаварыў унук.

— Але хоць разам будзем!.. Бачыш, і Ванюша наш — з Уладзікам, суседам, Паўлоўскім, ва ўланах — на конях у войску — у Кракаве ці Львове, бо — пісаў — ва Львоў пераводзяць а там Славаччына блізка, а яна ўжо з Немцамі! Тыя ж могуць і на нашу Польшчу рынуць-налязець!.. А вас усіх, расkіданых, збіраць — куды клічы высылаць?.. Упёрты ты, Антошка, як і бацька твой, Максім — як не ўб'еш, то не ўедзеш!.. І чые вы тут, абодва, такія?!.

Антоша п-а-е-х-а-ў...

Першага верасня 1939 радыё пракрычала вайну!.. Антошыных звестак-пісем-тэлефонаў-тэлеграмаў не было, аказалася — ні потым, ні ніколі... Як у Віслу ўскочыў, не выплыў!..

***

Дня другога, недзе пад вечар, па галоўнай вуліцы гарадка, Ягелонскай, праехалі першыя матацыклеткі немцаў... З'явіліся яны, як бачна, даволі хутка, бо граніца ж не так далёка, за Беластокам-Граевам; што тут ім — на машынах, матаровым, сто ці болей кіламетраў?.. Спакойныя яны былі нейкія, нікога не чапалі!..

Дзед Раман Чыжык, з Пясчанага Завулка — што пад горкай і рэчкай, які ў часы кайзера Вільгельма быў у нямецкім палоне пад Лоддзю, у чатырнаццатым, выпытаў немцаў: — Яны тут «на трохі», граніцу толькі «выпрамяць-паправяць»!.. — Падумай ты, — круціў ён галавой, — вось табе іх «ordnung"-парадак на ўсім! Прыпомніў сабе нават першы падзел Польшчы з 1772 года, калі нашы тутэйшыя землі падпалі пад Прусію; бач, і цяпер-сёння «сваё» вяртаюць, пар**а**дачнікі!.. Як — «на трохі»? На колькі? Што — адыдуць? Хто ж, тады, у нас будзе?.. Яны займаюць нашу Польшчу з захаду і поўначы (Прусія), да якога месца? Не ўсю? Хто н-а-с цяпер забярэ? Не яны? Літоўцы? Саветы-рускія?.. Вось, паездзілі матацыклеткамі гэтымі сваімі, патарк**а**талі, с-к-р-ы-л-і-с-я!.. Дзе яны сёння: у Беластоку? У Гродне?..

Васіль і Пракоп, местачковыя «сацыялісты», цвярдзілі, што з'явяцца — «маскоўскія»; дваццаты год і тысячы рускіх палонных, што ўзяў Пілсудскі, у польскай няволі памерлых прыйдуць успомніць, якія, як мухі, падалі ў лагерах а цяпер на іх гектары лесу растуць... Не ў нас тут, у цэнтральнай Польшчы, пад Млавай, Быгдашчай ці нейкай там Тухоляй!.. Людзі тут нашы гэткай «геаграфіі» не шукалі, толькі адны яны, як у нас іх называлі — «палітычныя дзеячы»: Васіль ды Пракоп з сынамі...

Бо каля Пушчы абозаў не было, дзе які тут толькі пятлюравец з Украіны ці балаховец з Беларусі быў заплёнтаўся... Спакойныя яны былі хлопцы, рабацягі... З-пад Палтавы, сапожнік Пятро ў нас на Казлянцы жаніўся, у касцёл пайшоў, ніколі не навучыўшыся гаварыць па-польску; другія праваслаўныя хлопцы — Косцік ад Баранавічаў — да Касі Раманчуковай прыстаў, удавы, трое ў яе — дбалы і працавіты — дзяцей гадуе; у Грушках, пад Белай Гарой, Павел з-пад Вінніцы — Паўло сталяр адметны, да Сонькі Скепкавай прыстаў-прытуліўся, хату вялізную будуе; іншыя, гурбой цэлай: Марозы, Фадзеевы, Зялёнкі, Руснакі, Каваленкі, Гарохі, Драбінкі, Бушкі, Кабылянскія, Несцерукі, Гладкія, Багушэвічы, Бараноўскія, Кратовічы — падаліся ў Гайнаўку, Белавежу, Пружаны, Поразава, Свіслач... Пачалі там жыць, працаваць сумленна ў тартаках, у фабрыках, абраблялі гаспадаркі... Карэнні іх ім саветы «прыпомнілі» ў 39-40 годзе, Казахстанам «накармілі», пры супольным «сталe» з сем'ямі.

***

Польскага войска ўжо тут не было, яно адышло адсюль дзесь у палове жніўня 39-ага, казалі — пад Візну-Ломжу. Месныя дзіваваліся: ч-а-м-у камандаванне забрала толькі палавіну коней з нашай вялікай стадніны, рэшту пакінула з работнікамі на іх штодзённы догляд?.. Вернуцца? Калі? Іх больш тут ужо ніколі не было!.. Каму тут гэтыя астаўшыеся коні-красаўцы? Які план? Забяруць потым?.. Прыйшлі-з'явіліся, і ад'ехалі, таксама хутка н-е-м-ц-ы, да коней заглянулі — пакінулі, не забралі (якаясь зоўсім не нямецкая, негаспадарнасць!)... Каму гэта ў-с-ё пакідаюць, даруюць?.. Чаму ж тады — прыходзілі?.. П-о-л-ь-с-к-а-е ўсё в-е-р-н-е-ц-ц-а?!. Калі — як?..

Местачковыя краўцы-крамары: Давід і Мойша, браты Гейнцлі, што па вуліцы Крынічнай усю вакругу на гэтым беразе Нараўкі абшываюць, да шлюбу п**а**ры гатовяць, смяяліся: «заплаціш, калі грошы будуць! Ты цяпер у царкву, у касцёл, палюдскі адзявайся! Свет задзіві! Ці я цябе пра грошы пытаю, га? Пане малады? Не абіжай ты старога жыда, вай! Ну — які ты зараз гаварыць скоры ды пра грошы думаць! Ты маладуху цалуй-абдымай, за цыцку бяры, прыемна! Каб ніхто яе табе ўкрасці, ляльку тваю, не падумаў! Гэй, паночку! Ён — плаціць! Час будзе, хлопча!!!»

Гейнцлі казалі-гаварылі свайму аднагодку, дзеду Іакіму: — Браточку, гэтыя немцы зараз адыдуць, не думай! Палітыка такая! Павер — саветы прыйдуць, з Богам ды людзьмі ваяваць! Мы гэта чуем, роднеңкі!.. Потым — зноў той Гітлер сваіх сюды кіне-прышле! І, вось, нам тады, тут і ўсюды — не здабрав**а**ць! І следу нашага нідзе не станецца, мо' толькі кіркут наш, могілкі, што пад горкай, на Гушчэвіну — Масева едучы!.. Нам ужо, Іакімачку, добры ды мілы ты наш школьны калежка даўні, больш будзе НЕ жыць!.. Не адно мы тут пачуем-пабачым, нас тут у расход пусцяць!.. Над намі ўсімі, на векі — Адан**а**й наш Усявышні, няхай Яму будзе слава і чэсць!, як благаславіць — гэтаму і бываць, як заслужылі праз вякі, вандруючы па свеце, каля вас апынуўшыся, слаўна і хвальна, мірна ды добра пажыўшы!.. Ты заглянь да нас, час знайдзі, не адкладывай з намі развітацца! Нам ужо хутка памінкі, «кадыш», «вечную памяць» спраўляць спяшаціся трэба!.. Бо прыйдуць і сюды «надчалавекі! І вам, хрысціянам, тожа соладка не будзе! Іакіме, пане брацішку, што любіш і шануеш нас, школьна-класны наш калежка сардэчны!.. Мо' дзе калі — нахварасцілі мы, дурнаватыя, табе, калі? — ты не помні школьнага дуралейства, Іакіме, пане Вінярскі наш мілы!..

***

Сямнаццатага верасня нямецкія самаходы і матацыклы, гэткія — з кошамі ўсе з боку — узбілі туманы пясчанай к**у**равы навокал і з-н-і-к-л-і!.. Уся ваколіца праз некалькі дзён пуставала без гаспадара, дзень і ноччу была н-і-ч-ы-я!.. З-а-ц-і-х-л-а!.. Здавалася — і лес не шуміць, і рэчка не плыве, і рыба ў ёй не плюскае, і птушкі нават заціхлі!.. Бяда якаясь і-д-з-е!..

***

Новыя «прыходцы» з'явіліся гал**а**страй, шумна, з гармонямі, як на фэст які народны, ці святочную гарадскую ярмарку!.. Начальнікі ўсялякай масці, парцейцы, больш за ўсё — мужчыны, войска!.. Гаварылі толькі па-руску, с-а-в-е-т-ы, значыць!.. Часцей за ўсё чарнявыя, у мундзірах, відна — казахі, туркмены, узбекі, таджыкі; дзе трохі, аказалася, і беларусаў, рускіх, украінцаў; пападаліся грузіны і армяне... Войска асела ў лясных лагерных палатках, у Пушчы — за надлясніцтвам; як аказалася — на нахлынуўшыя, нечакана, арктычныя ў нас — больш за 30 градусаў маразы — ужо ў першую тут іх зіму 1939 года!.. Афіцэры расселіся на местачковых і вясковых, наўкругі, дамах...

Ледзь усё гэта, якась, прыціхла — пачаліся народныя сходы. На рынку, дзе, дасюль, нядаўна, па серадах, бывалі заўсёды знамянітыя гарадскія кірмашы, цяпер ужо не бачаныя, куды з'язджалася і Гайнаўка, і Нарва, заглядала Міхалова і Ялоўка, на поездзе з'яўлялася нават Белавежа а з другога боку Свіслач.. Гарадок тады гудзеў, купляў, прадаваў, у шынках жыдоўскіх, смачных, весяліўся... Або ў «Доме Людовым»... Выйшаў наказ здаваць польскія дакументы... Амаль ніхто іх не паказваў, аднекваючыся: — Іх забралі ў нас немцы!..

Дзядуль Іакім, Вінярскі, дапытваўся: — панове, як гэта нам цяпер быць?.. Немцы ўсё прыхвацілі (хлусіў стары!), наказалі — „ordnung", абавязковы парадак, няма іх у нас, папераў нашых, польскіх!..

— «Наша» будзе тут цяпер, с-а-в-е-ц-к-а-е, — сказаў голасна якісь ваенны. — Пане, я не ведаю, хто вы — звёздачак вашых нявідна, вы якая ранга?... — У нас, видите, другое, полковник я!..

— Ну, значкоў вашых-кубікаў я не разбіраю, але спытаю: вы надоўга да нас? Ці — як немцы — на тыдзень-два — ды ад'едзеце, а нашы, польскія, зноў да нас вернуцца?.. — Нету уже Польши, дед, совсем распалась!.. — быў злосны адказ нейкага другога ваеннага...

Стары Вінярскі хацеў яшчэ выясніць «што з Польшчай?», але сын яго Максім і ўнук Стэфан вывелі яго сілай са сходу!.. Максім загудзеў на вуліцы: «Тата, думаеце, гэта вам як у іншым войску 14 году?.. Ці ў нашым польскім, дзе ва ўланах наш Ванюшка: «сееш у балота а збіраеш золата?»... Вам навошта цяпер гэтая геаграфія-палітыка?.. В**е**рнеце наш польскі жонд? Сваё войска з-пад Ломжы, конніцу? Уланаў нашых з Кракава ці Львова?.. Дзе цяпер нашы вадзове? Рыдз-Сміглы, Масціцкі, Бэк? Мо нас пакінулі? Чаму гэты свет крыкнуў нам у дагонку пра Румынію? Што гэта? Нас пакінулі? Хто цяпер у Варшаве? Дзе фронт? Дзе астанавіліся немцы? А як праз граніцу, праз войска наша, прайшлі саветы? У палон усіх узялі-павезлі ў глыб Расіі? У радыё — адна суматоха — бяда, Варшаву бамбяць! Ды гэтыя «новыя» нас тут на кавалкі дзеляць, бачыце — як Васіль з Пракопам «танцуюць», прыходцам услугоўваюць, нас — чак**а**й — у турму пасадзяць!.. А вам — «што з Польшчай?» — ведаць трэба?!. Пайшлі дамоў, пакуль гэтыя лазутчыкі яшчэ за намі не гоняцца!..

***

Гарадскія, местачковыя вуліцы гудзелі як п**у**шчаная зранку гарадская фабрыка з ткацкімі кроснамі; самаходы то ўязджалі, то выязджалі, кіруючыся на станцыю; з людзьмі ў мундзірах і без, з якімісь скрынкамі-пакамі, мэбляй, нейкімі варштатамі, абрабяркамі, стругаркамі, такаркамі — куды іх? Сюды? Адсюль? З — ці да — сталярняў, што на Дамброўскай плошчы? Са шкляной гуты пад кіркутам, на Міцкевіча?.. Што там за прылады, кухні нейкія?.. Вайсковасць?..

Пад ваенны склад учора занялі, чамусці, старынную сінагогу (няўжо рабін г-э-т-а-к вырашыў?), хаця пад рукой ёсць і іншыя памяшчэнні?.. Людзі чакалі, што праз дзень-два замкнуць царкву і касцёл!..

Праз тыдзень, унач**ы**, напалохаўшы ўсіх, загарэлася стаўпом велічным сінагога!.. Р**а**біна Хар**о**віца і першых прыбегшых на пажар праваслаўных і жыдоў тут жа запалоніліі іхнія ж месныя пабрацімцы (арыштавалі ўсіх іх як падпальшчыкаў), што ўжо ўспелі падацца ў супрацоўнікі да новага, савецкага начальства. Спайманых — тут жа павезлі ў Ваўкавыск — гаварылі гараджане; забраных ужо ніхто тут болей і не спатыкаў!.. Такім усім будзе адна дарога! — гудзелі Васіль і Пракоп.

(працяг будзе)

# Я зачаравана беларускай кухняй

Размова з **Магдай Геслер**, рэстаратаркай, вядучай праграмы TVN «Кухонныя рэвалюцыі» і сяброўкай журы гэтай тэлестанцыі польскага выдання «Майстар шэф-кухар», фельетаністкай, уладальніцай і саўладальніцай каля дваццаці рэстаранаў, у тым ліку легендарнай варшаўскай «U Fukiera».



Магду Геслер сустрэлі мы выпадкова ў «Дварку над лугамі» ў Кермусах каля Тыкоціна, дзе яна рэалізавала ў другой палове лістапада частку здымкаў да чарговага эпізоду «Кухонных рэвалюцый», якія ў гэты раз рабіла ў адным з рэстаранаў Кнышына, і неўзабаве пасля таго — у Супраслі.

**— Як можам прачытаць у Вікіпедыі, Вы прапаведуеце праваслаўе. Як справа маецца з Вашым праваслаўем?**

— Гэта не вельмі добрая ідэя, каб шукаць праўду пра мяне ў Вікіпедыі (*смяецца*), я рэкамендую маю «Апетытную аўтабіяграфію». На самой справе, адна з маіх бабуль была расіянкай, другая паходзіла з Валыні. Большая частка маёй сям'і пахаваная на праваслаўных могілках на варшаўскай Волі

**— Ці праваслаўныя традыцыі ў Вашым доме працягваюцца?**

— Маёй мамай і бабуляй з яе боку — поўнасцю. Я захапляюся праваслаўным культам, ён мне эмацыйна вельмі блізкі. Праваслаўныя спевы вельмі ачышчаюць і цудоўна супакойваюць. Мне таксама падабаецца факт, што падчас набажэнства стаяць, а не сядзяць, што мы духоўна актыўныя. Праваслаўе з'яўляецца вельмі вялікай эмацыйнай падтрымкай, з эстэтычнай цеплынёй. Царква не палохае. Праваслаўныя святары могуць мець жонак і гэта вельмі нармальна. У Сафіі маёй нянькай была блізкая сяброўка аднаго з мясцовых святароў і па гэты дзень я ўспамінаю яе вельмі цёпла (гэта было звязана з прафесійнай дзейнасцю бацькі Магды Геслер, Мірослава Іканавіча, які быў замежным карэспандэнтам Польскага агенцтва друку — М. Х.).

**— А ў багаслоўскім маштабе — карацей кажучы — напрыклад, той факт, што ў праваслаўі няма чыстца, выключаецца прымат папы, непрызнанным з'яўляецца бязгрэшнае зачацце Дзевы Марыі і Унебяўзяцце Божай Маці?..**

— Многія догмы праваслаўя вельмі дарагія для мяне. Праваслаўе гэта праўдзівая вера, а не дзяржава і ўлада. Абміну тое, што зараз адбываецца ў Расіі на мяжы паміж дзяржавай і Праваслаўнай царквой. Праваслаўе для мяне — спірытуалістычная царква, духоўная ў вымярэнні нашмат больш, чым каталіцкая. Ажыўляе маю душу. Дваццаць гадоў я жыла ў Іспаніі (пасля пражывання ў Гаване ў 60-х гадах мінулага стагоддзя, Магда Геслер скончыла ў Мадрыдзе жывапіс на тамашняй Акадэміі выяўленчых мастацтваў — М. Х.). З тых часоў каталіцкі касцёл палохае мяне.

**— Наколькі я ведаю, блізкая Вам у сямейным плане таксама Віленшчына...**

— ... і ў сувязі з гэтым тамашні моцны каталіцызм, які ад майго бацькі, значыць, Іканавічаў, быў моцна практыкаваны. Пры камунізме бацьку даводзілася хаваць свой каталіцызм. Ён быў цвёрда замацаваны ў ім, і па гэты дзень. Магчыма, яго праца ў якасці карэспандэнта ў Ватыкане (у 1981-1986 і 1990-1994 гадах — М. Х.) і сяброўства з Янам Паўлам II мела на гэта таксама вялікі ўплыў.

**— А ці ёсць штосьці такое, што можна было б назваць у польскай кухні спадчынай віленскіх традыцый, шырэй — Вялікага Княства Літоўскага?**

— Гэта спадчына велізарная, хаця была забіта камунізмам за яго амаль пяцьдзясят гадоў кіравання ў нашай краіне. Тым не менш гэта ніколі не адбылася ў маім доме. Віленская кухня заўсёды была з намі ў першую чаргу. Мая бабуля, мама майго бацькі, якая была італьянкай па паходжанні, віленскую кухню вывучала ад сваёй свякрові. З іншага боку, мая маці вывучыла віленскую кухню праз яе. Вось чаму і ў маім доме, і «U Fukiera» можна з'есці найлепшыя калдуны, такія, якія еў мой бацька, падрыхтаваныя яго мамай. Уся філасофія гэтай кухні непраўдападобная. Яна сухая, вільгаць не мае да яе доступу. Таму вяндліны маюць зусім розныя смакі. Наогул спалучэнні смакаў гэтай кухні з'яўляюцца спецыфічнымі, больш абстрактнымі, чым польскія. Вядома, гавару пра кухню мяшчанскую, не сялянскую, таму што тут розніц значна менш.

**— Але кухня Вялікага Княства Літоўскага таксама — беларуская, старарусінская кухня. Ці Вы сутыкнуліся з ёю ў Вашых кулінарных падарожжах па Польшчы?**

— Асабліва ў «Царскім» рэстаране ў Белавежы, якой спрыяю шмат гадоў...

**— ... Так, кажуць, мелі Вы нават у ёй вянчацца?**

— (*Смех*). Я не ведаю, можа і буду, але пра ўсё і так усе даведаюцца пасля факту. Так, беларуская кухня вельмі блізкая мне, яна мяне падкупляе. Я здзіўлена, што ў Польшчы так мала гаворыцца пра яе — магчыма, менавіта з-за спецыфічнага часу, у якім некаторыя людзі неахвотна да яе прызнаюцца? Між тым, у Беларусі вы можаце дастаць геніяльныя селядцы, адны з лепшых у нашай частцы Еўропы, хоць Беларусь не распаложана над морам. Беларусы, аднак, патрапяць ставіцца да прадуктаў з павагай, клапоцячыся ў першую чаргу аб іх натуральнасці. Бульба гэта бульба, не ўдае невядома чаго. Кулінарныя асацыяцыі беларусаў таксама цудоўныя, нечуваныя. Гэта радуе мяне, што тэмай беларускага стала з'яўляюцца простыя стравы, смак якіх цалкам залежыць ад якасці прадуктаў. Там няма месца для глабалістычных дзівацтваў.

**— А бульба з'яўляецца больш польская ці беларуская ў кухнях абедзвюх краін? У якой больш дамінуе?**

— На самой справе, найбольш яна нямецкая. З бульбай так ёсць, што кожная нацыя лічыць, што яна ейная. Але калі справа даходзіць да яе выкарыстоўвання, то ў Беларусі дакладна робяць з ёю цуды. Палякі, здаецца, страцілі гэтую ўмеласць, нават не ведаю, калі гэта калі-небудзь мы яе мелі. Ва ўсякім выпадку я думаю, што бульба нідзе так добра не трактуецца ў кухні, як у Беларусі.

**— Што б Вы падказалі заказаць з беларускай кухні?**

— Сала ва ўсіх яго формах, напрыклад, у выглядзе... карпачыо. Гэта самая простая са страў, прытым неверагодна адмысловая. Мне падабаюцца простыя стравы, кіслыя. Беларускі селядзец у салодкім смятанным крэме ў спалучэнні з вадой і воцатам, да таго цыбулька, кроп і кавалачкі бульбы... Неба ў роце.

**— Набліжаюцца Каляды. Што павінна быць на Вашым стале ў Куццю?**

— Для мяне самым важным святам з'яўляецца Пасха, а таксама калі справа ў кулінарным плане. А напярэдадні Каляд у маім доме павінна быць салатка з белай фасоляй, селядцом і бураком. Не, калі ласка, не блытайце з «шубай». Селядзец у шубе з'яўляецца ўкраінскі, гэта іншая страва. Кожны год боршч на баравіках — ён беларускі, а не, як звычайна лічыцца — польскі. Я падаю яшчэ варэнікі з бульбай без акрасы. Акрамя таго, бульба ў мундзіры і селядзец у льняным алеі. На маю Куццю на стале паяўляюцца таксама сушаныя рыбы, амаль невядомыя ў Польшчы. Ёсць таксама ікра на блінах — пшанічных, не ячменных. Усе думаюць, што бліны трэба зрабіць з грачанай кашай, у той час як мае — пшанічныя і раскошна тоненькія.

**— Дзякуем за размову, перадаем мноства пажаданняў з нагоды Божага Нараджэння.**

— І я жадаю вам і Чытачам самых смакавітых свят. З Калядамі!

Размаўляў Мацей **ХАЛАДОЎСКІ**

# Гісторыя з дыняй

Завяршаюцца апошнія нядзельныя службы ў цэрквах і касцёлах. Сядаю ў аўтамабіль і адпраўляюся ў навакольныя вёскі ў пошуках апошніх старажылаў. Цёмны, дажджлівы, восеньскі поўдзень зусім гэтаму не спрые. Не першай маладасці аўтамабіль грэзне на кепскай, палявой дарозе ў Калёнію Кнышэвічы Шудзялаўскай гміны. Жыве там Клаўдзія Прымака. Канчаецца батарэйка ў мабільніку, кругом ні жывой душы. Вяртаюся на галоўную дарогу і еду ў Слою да Жэні Федзюковай. На прывітанне плот моцна абвязаны белай шнуроўкай. Брамку адчыніць немагчыма.

«Можа пайшла да суседзяў?» — задаю сабе пытанне. Але кругом толькі апусцелыя хаты, а далей — палацы нейкай «навалачы» з высокімі да неба платамі і нацкаванымі сабакамі. Прайшоўшы палову вёскі, нататкаю на адным з панадворкаў пажылога мужчыну з дынямі пад пахай. Кажа, што Жэня ў шпіталі і ў вёску на зіму не вернецца.

— Ці прадасце мне дыню? — пытаю

— Гэтымі дынямі кармлю бараноў, не хочаце бараніны? Столькі мяса марнуецца. Мы ўжо старыя, нам не можна яго есці, а прадаць няма каму, — адказвае неахвотна. — А вы скуль і чыя?

— Чабаноў, Янка, Надзіна ўнучка.

— Гэта ж мы сваякі, — ажыўляецца раптам мужчына. — Ваша баба — мая хрышчона. Ой вельмі яна добрая была, ніколі пра мяне не забывала, заўсёды нешта прыносіла.

І вось 84-гадовы Міхал Хомік маладзее ў маіх вачах на нейкіх семдзесят з нечым гадоў. Бачу як круціцца пры бабулінай спадніцы і карыстаецца яе сапраўдным, кулінарным талентам, незвычайным розумам і ласкай. Цяпер заганяе мяне ў хату на абвязковы пачастунак. Будзіць дрэмлючую на канапе ў кухні жонку. На пліце даходзіць гаршчок капусты з баранінай, ад спажыцця якой адмаўляюся з заклапочанасцю. Звяртаю ўвагу на галаву жонкі па-колішняму цесна абвязаную дзвюма хусткамі: белай на лбе, а затым чорнай. Жанчына прыносіць вялікую, бляшаную міску поўную бараняй печані. Чакае з двума вялікімі, скрыжаванымі ў руках нажамі, каб выняць выбраную мной часціну. Зноў расчараванне. Рашаюся на вафельчык, мабыць, проста з аўтамабільнай крамы і вараную грэлкай у кубку каву. Кава атрымліваецца добрая, як памяць пра бабулю Надзю родам з той жа Слоі. Міхал працягвае сямейныя ўспаміны. Настрой быццам дзядоўскі, толькі традыцыйнай бараняй галавы і куцці не хапае.

— А пра вайну вы нешта скажаце? — пытаю сваяка.

**З АДНАГО БОКУ ПРЫЙШЛІ РУСКІЯ, А З ДРУГОГА — НЕМЕЦ**

Рускія ехалі на танках, ад Крынак, праз мост, праз Кнышэвічы, а потым той жа дарогай вярталіся. Уцякаючы пакідалі танкі ў Крынках на выгане. Нашы людзі іх віталі, думалі што будзе лепш, чым пры санацыі, а тут зусім бядота прыйшла. Вельмі яны бедныя былі, нават махоркі не мелі. Зараз зрабілі тут калгас, забралі нам каня, карову, зямлю. Бацьку назвалі кулаком, таму што 46 гектараў зямлі меў. Але якая ж там зямля, адзін пясок. Сусед сказаў яму: «Ну, будзем цяпер кулаком араць». Пайшоў, напалоханы, да прадсядацеля і папрасіў выпісацца з калгаса. Бацьку выпісалі, але іншых ахвотных ужо не. А ў калгасе як у калгасе — адзін робіць, другі спіць. Нават клуб у вёсцы тады зрабілі, у дзеравянай леснічоўцы прывезенай з Копнай Гары. Пасля ліквідацыі калгаса вясковыя хітрыны леснічоўку разабралі і паставілі сабе хаты.

Надыходзячыя немцы скінулі бомбы і палова вёскі згарэла. Я, малы, якраз авечак тады пасвіў. Калі пачалі бамбіць, уцякаў да Сукавіч, а потым да Астраўка. Рускіх пазабівалі. Мой старэйшы, глухі брат іх хаваў. Крыж жалезны паставіў. Пасля вайны косці салдат павывозілі ў Расею. Немцы, акружыўшы вёску, загналі ўсіх мужчын у гумно на адну ноч, толькі каб напалохаць. Ад бацькі двое коней забралі і паехалі з кулямётамі на крынскую гару. Слоя адміністрацыйна прыпісана была тады да Адэльска, там сядзеў галоўны камісар. Аднойчы солтыс загадаў усім на прышчэпліванне ў Адэльск ехаць. Думалі, што супраць сухотаў. Дзяцей з'ехалася шмат. Спярша скуру дралі, а потым нечым шмаравалі. Мяне таксама пашмаравалі. Адна медсястра шмаравала, а другая выйшла на калідор і сказала: «Выцірайце, гэта грузьліца». У Гаркавічах шмат людзей на туберкулёз тады паўмірала. Захварэла і мая маці. Дарма ездзілі ў аптэку ў Крынкі па лякарства. Памерла, калі якраз немцы адступалі. Хавалі без бацюшкі. Прыйшоў сусед з крыжам і з тым жа крыжам павезлі яе на могілкі.

**ПРА ЖЫДОЎ**

Быў у нас тут такі кравец, жыд з Саколкі. Прыходзіў у Слою пехатою і начаваў па хатах. Меў свой гаршчочак, у якім сам сабе варыў. Яму з нашых гаршкоў есці не дазвалялася, таму што там тлушч. Толькі бульбу еў, печаную альбо вараную. Танна браў, нават сантыметра не меў, паўмятроўкай мераў. Нам два кажухі парэзаў, але пашыць іх ужо не паспеў. Солтыс атрымаў загад адасласць яго ў сакольскае гета. Як толькі паявіўся ў Саколцы, забралі як стаяў. Швейную машыну і прас на вугаль узяў сабе адзін з нашай вёскі, які адвозіў яго ў гета. Жыла тут таксама адна жыдоўка — жонка Міся. Яго бацька — праваслаўны, прыйшоў у прымакі з Вярхлесся. Жыдоўка паходзіла з беднай сям'і з Водлы пад Адэльскам. Тады ў вёсках жыло шмат бедных жыдоў. Яе бацька быў кавалём, а яна звычайнай гаспадыняй. Тут рабіла ўсё: жала, бульбу выбірала. Немцы яе не чапляліся, бо ніхто нічога ім не сказаў. Калі памерла, пахавалі яе ў Саколцы, мабыць, на рускіх могілках. Ай, а ў Крынках столькі жыдоў было. Помню, калісь, з бацькам заехалі туды на рынак, бацька паставіў каня, сказаў сядзець і я сядзеў на возе. Ён пайшоў, а я давай плакаць. Прапаў бацька. Там, побач крамы, пазнейшай гезсоўскай, гандлёвыя будкі стаялі. Падыходзіць да мяне адна жыдоўка, такая як вы, маладая і пытаецца чаго плачу.

працяг ☞ 11




## http://bc-tsmoki.by

Ёсць у Беларусі баскетбольны клуб „Цмокі-Мінск”, які аб'ядноўвае тры прафесійныя каманды — дзве мужчынскія і жаночую. Як падае Wikipedia, створаная ў 2006 годзе каманда „Мінск-2006” да 2009 года стала гегемонам беларускага баскетбола.

„14 верасня 2012 года клуб абвясціў пра рэбрэндынг — змену наймення ўсіх прафесійных і дзіцячых каманд структуры. Гэта было зроблена з мэтай прыцягнуць дадатковую цікавасць аматараў баскетбола ў краіне, стаць вядомым і непаўторным спартовым суб'ектам на міжнароднай арэне. Новая назва «Цмокі-Мінск» адлюстроўвала духоўныя і гістарычныя карані, уласцівыя беларусам, пры гэтым захоўваючы нестандартнасць, якія дыктаваліся маркетынгавай стратэгіяй”, — адзначаецца ў Вольнай энцыклапедыі.

Можна адназначна сцвярджаць, што рэбрэндынг прынёс карысць клубу. Каманды „Цмокі-Мінск” вядомыя ў Беларусі не толькі аматарам баскетбола, але і тым, хто папросту, не будучы нават аматарам спорту, цікавіцца навінамі жыцця беларускай краіны.

Як кожны сучасны спартовы клуб, „Цмокі-Мінск” мае ўласны сайт. Сярод яго асаблівасцей — суцэльная беларускамоўнасць, што цалкам упісваецца ў ідэю адлюстравання „духоўных і гістарычных каранёў, уласцівых беларусам”.

Калі цікавы карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://bc-tsmoki.by**, то перад яго вачыма адкрыецца выяўленне, якое, здаецца, ажно зіхаціць нейкай энергіяй, прагай да перамогі, жывымі эмоцыямі. Разнастайныя інфармацыі можна адкрыць, клікнуўшы на фотавыяўленні, што адлюстроўваюць розныя моманты гульняў каманд клуба. Там жа месяцца турнірныя табліцы розных спаборніцтваў, у якіх „Цмокі-Мінск” бяруць удзел.

Усе выйсці на рубрыкі месяцца ўверсе і ўнізе цэлага выяўлення. Адметна, што будова сайта баскетбалістаў адпавядае сучасным павевам — так, там няма традыцыйнага дзялення выяўлення на дзве ці тры часткі і ўсе рубрыкі часткова прадстаўлены на галоўнай старонцы. Для таго, каб іх пабачыць трэба пракруціць выяўленне зверху ўніз.

Выйсці на рубрыкі ўверсе і ўнізе не абавязкова дублююць адны адных. Няма, напрыклад, уверсе такой цікавай рубрыкі як „СМІ”, дзе падаюцца матэрыялы аб клубе, апублікаваныя ў газетах ці ў інтэрнэце. Там, дарэчы, ёсць і інфармацыя аб беларускамоўнасці сайта клуба. „Мы вырашылі ўводзіць мову ў жыццё клуба паступова: крок за крокам. Пачалі з таго, што палова праграмак стала друкавацца па-беларуску. Потым прыкінулі, што каб на нас звярталі яшчэ больш увагі, трэба неяк удасканальваць рэкламу. Сярод розных афіш нашы павінны вылучацца. Зрабілі і заўважылі, што людзі ў метро пачалі рэагаваць на незвычайнае — дракона і мову”, — распавёў у інтэрв'ю Tribuna.com прэсаташэ „Цмокаў” Дзмітрый Герчыкаў.

Сёння сайт баскетбольнага клуба мае дзве моўныя версіі — беларускую і англійскую. Апошняя прысутнічае выключна з-за таго, што ёсць патрабаваннем арганізатараў міжнародных спаборніцтваў. „У некаторых беларусаў свая мова, свая культура, гісторыя і міфалогія асацыююцца з пэўнымі палітычнымі рухамі і выклікаюць адрыньванне. Людзі адмаўляюцца ад Купалы, Цёткі і Багушэвіча толькі таму, што тыя пісалі па-беларуску, і гэта вельмі дрэнна. І гэта яшчэ адна прычына, чаму мы сёння робім усё так: мы спрабуем хаця б у спартыўнай супольнасці змяніць становішча”, — адзначае прэс-аташэ баскетбалістаў, якім шчыра хочацца пажадаць перамог ва ўсіх гульнях.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Імкнуўся да еднасці беларусаў



## 20 гадоў з дня смерці Мікалая Шчорса

Дакладная дата нараджэння беларускага грамадска-палітычнага дзеяча Мікалая Шчорса невядомая. На свет ён з'явіўся ў 1913 г. у мястэчку Новы Свержань на Стаўбцоўшчыне. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, актыўна ўдзельнічаў у грамадскім руху. У 1935-1937 гг. — старшыня Беларускага студэнцкага саюза, у 1939 г. выехаў у Варшаву. З 1940 г. — старшыня Беларускага камітэта ў Варшаве, кіраўнік „групоўкі Шчорса”, якая цесна супрацоўнічала з нямецкім Абверам (ваеннай разведкай і контрразведкай ІІІ Рэйха) і разглядала падзеі магчымай акупацыі як мажлівасць стварыць беларускую дзяржаву пад нямецкім пратэктаратам. На пасяджэнні беларускага актыву ў Берліне ў чэрвені 1941 г. абраны старшынёй Беларускага нацыянальнага цэнтра, які разглядаўся як урад будучай Беларусі. Аднак праз тры тыдні, пасля наведвання Беларусі, адмовіўся ад палітычнай дзейнасці. Вярнуўся ў Варшаву, дзе цягам пяці гадоў узначальваў Беларускі камітэт. У 1941 г., дзякуючы Шчорсу, мітрапаліт Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Дзяніс пагадзіўся пасвяціць беларускіх епіскапаў для будучай беларускай аўтакефаліі.

З восені 1944 г. Шчорс быў у Германіі. У 1946 г. браў удзел у І З'ездзе беларускіх праваслаўных вернікаў у Рэгенсбургу, на якім абраны яго старшынёй. Браў удзел у пасяджэнні, дзе было прынята рашэнне часова прыпыніць дзейнасць Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1946-1947 гг. узначальваў Беларускае праваслаўнае аб'яднанне, падтрымаў аднаўленне БЦР.

У 1949 г. Шчорс пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Йорку. Узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамогавы камітэт, ініцыяваў і стаў старшынёй Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі (БККА). Дамагаўся ад Дзяржэпартамента ЗША ўвядзення беларускамоўных перадач на радыёстанцыі „Голас Амерыкі”.

Мікалаю Шчорсу належала ініцыятыва супрацоўніцтва БККА са Спецыяльнай камісіяй даследавання бальшавіцкіх рэпрэсій у дачыненні нярускіх народаў СССР (камісія кангрэсмена Чарльза Керстэна). У 1954 г. ён наведаў камісію з дакументамі, якія пацвярджалі рэпрэсіі з боку камуністычнай Масквы ў дачыненні беларускага народа. Да дакументаў былі далучаны адмыслова напісаныя ўспаміны сведак і ахвяр рэпрэсій у СССР і матэрыялы з гісторыі Беларусі, напісаныя Леанідам Галяком, Шчорсам, Іванам Касяком.

У 1958 г. Шчорс разам з Янкам Станкевічам стварылі Беларуска-амерыканскі саюз. Шмат працы Мікалай Шчорс вёў па аб'яднанні розных плыняў і розных беларускіх арганізацый, аднак гэта было надзвычай складана. Зразумеўшы марнасць сваіх аб'яднаўчых высілкаў беларускай эміграцыі, Шчорс канчаткова адышоў ад актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці, з'ехаў у памежны з Канадай Платсбург (штат Нью-Йорк), дзе меў клініку, быў віцэ-прэзідэнтам Амерыканскай асацыяцыі хірургаў. Мікалай Шчорс займаўся дабрачыннай дзейнасцю: быў адным з асноўных фундатараў падчас пабудовы царквы ў Саўт-Рыверы, ахвяраваўшы 6,5 тысяч долараў. Кожны год на 25 Сакавіка Мікалай Шчорс прыязджаў у Саўт-Рывер, каб адзначыць з землякамі Дзень незалежнасці БНР. Пасля выхаду на пенсію пераехаў у Фларыду.

Памёр Мікалай Шчорс 22 снежня 1995 г. у горадзе Даўнт-Мора. Пасля яго смерці жонка-немка скасавала зроблены раней мужам кантракт з пахавальным бюро, забрала грошы і адмовілася ад месца на могілках. Цела было спалена, а дзе былі змешчаны ці развеяны прах — невядома.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

10 ☞ працяг Кажу, тата прапаў. Прыйдзе, не плач, адказала і зараз прынесла мне булку.

У вайну жыды ў нас на хляве сядзелі. Маці каровы доіць, а тут раптам нешта сікае з верху. Паклікала бацьку напалоханая. Шасцёра іх было. З Крынак прыйшлі. Адзін, Ёршка, перад вайной жарабят скупляў, між іншым ад нашага бацькі. Абяцалі, што толькі некалькі дзён пабудуць. Бацька насіў ім есці. Вечарам па панадворку шпацыравалі, хто ж там выседзіць цэлы дзень на хляве. Недзе тыдзень сядзелі, потым зніклі. Мы ездзілі на луг у Супрасль. Бацька пайшоў у лес па дубец, патрэбны, каб воз з сенам не перакінуўся. Глядзіць, а там у грудзе рускія партызаны сядзяць, а сярод іх знаёмыя жыды. Гэта была апошняя з імі сустрэча.

А дыні атрымліваю ў падарунку.

Іаанна ЧАБАН

## Абаліцыі не будзе

У зводзе пастаноў і законаў ад 4 снежня 2015 г. змешчана распараджэнне Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання ад 1 снежня 2015 г. у справе вызначэння ставак абанемента на 2016 г. З пачаткам студзеня месячная плата за радыёпрыёмнік складзе 7,00 зл., а за радыёпрыёмнік і тэлевізар — 22,70 зл. Вызначаны таксама скідкі для абанентаў, якія заплацяць наперад.

Па статыстыцы Краёвай рады запазычанасць абанентаў за незаплачаны абанемент сягае больш за два мільярды злотых. У мінулым годзе, напрыклад, аплаты склалі суму 750 мільёнаў зл. (у тым ліку 442 млн. тычылася запазычанасці). Гэта адно 32% коштаў вяшчання публічнага тэлебачання і 72% — радыёстанцый. Пошта польска намагаецца ліквідаваць запазычанасць, пасылаючы даўжнікам напамінальныя лісты з патрабаваннем пагасіць пяцігадовую няўплату. Такіх напамінаў у 2014 годзе было 190 тысяч. Выдадзена ў гэтай справе 181 000 рашэнняў. Абаліцыя па незаплачаным абанеменце не прадбачваецца. Трэба плаціць. Гэта законны абавязак. Варта адзначыць, што за пяцігадовы тэрмін запазычанасць можа скласці нават больш за паўтары тысячы злотых, а належнасць можа спаганяць судовы выканаўца.

У 2008 годзе закалот у справе абанемента ўчыніла Грамадзянская платформа. Дональд Туск абяцаў адмяніць абанемент. Назваў гэта перажытым рэліктам. Абяцанкі не стрымаў. Яго заява аказалася звычайнай выбарчай каўбаскай.

Кабінет прэм'ер-міністра Бэаты Шыдла мае гатовую прапанову, якая зводзіцца да замены абанемента аўдыёвізуальнай аплатай. Плаціць яе будзе кожная сямейная гаспадарка. На думку міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Пётра Глінскага, у цяперашняй рэчаіснасці кожны карыстаецца радыёпрыёмнікам ці тэлевізарам. Прадбачваецца, што новы закон уступіць у сілу ў першай палове 2016 года. Тады будзе адменены абавязак рэгістрацыі радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, камп'ютэраў ці смартфонаў. Дагэтуль не прынята рашэння наконт стаўкі аўдыёвізуальнай платы, як і спосабу выканання закона. З новага года плацім абанемент паводле ставак, якія абавязваюць у 2016 годзе.

Уладзімір СІДАРУК




1. цвёрды фундамент нейкай тэорыі ці жыццёвых паводзін, які... даў пачатак Першай сусветнай вайне, 2. закончанае выказванне, напрыклад рад гукаў у музыцы, якія ўтвараюць адносна закончаную частку мелодыі, 3. выспа, 4. лекар, 5. установа з клоўнам і дрэсіроўшчыкам, 6. чыгунны кухонны кацёл для стравы, 7. хімічны элемент н-р 53, 8. не камень, але камень можа з яго зваліцца, 9. горад, у які цячэ Дзвіна, 10. кабан, 11. часовая ізаляцыя заразна хворых.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Арыя, веер, Віга, лыч, пампа, саха, чума, чыж, язда.

Рашэнне: **Чужыя грахі перад вачыма, а свае за плячыма**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# СПРАВЯДЛІВЫ ГАРАСКОП на 2016 ГОД

**Баран (22.03. — 20.04.)** Будзеш цешыцца жыццём і хопіць табе энергіі. Твае рысы характару памогуць прабіцца ў прафесійнай сферы. Карысці даб'ешся дзякуючы сябрам, знаёмствам і арганізацыі. Удачы ў куплі ці продажы зямлі, дома ці важнай інвестыцыі ва ўласны бізнес. Трымай руку на пульсе, каб не праваroніць шанцаў на ўзбагачэнне. Сяляне могуць лічыць на рост прыбыткаў з зямлі. Але развой фірмавых спраў можа раптам прытармазіцца з-за лёсавых спраў. Ад верасня нядобры час для рызыкоўных фінансавых мерапрыемстваў. Твая праца будзе дацэнена. Добры настрой і ўнутраны спакой, а працавітасць і трываласць спрычыняцца да таго, што будзеш вельмі задаволены. У парах з даўгалетнім стажам — спакой і стабілізацыя. Шчаслівыя дні: 29.02., 31.03., 05.05., 16.07., 12.10., 06.12.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Год вельмі карысны. Будзеш мець дар пераконвання і прабойнасць. Аднова ў розных галінах жыцця, творчая праца і пачынанне чарговых мерапрыемстваў. Адважышся на тое, чаго дагэтуль баяўся. Змяні сваё атачэнне, вызваліся са старых путаў і абмежаванняў, мяшаючых у зборы плёну тваіх трудоў і адданасці. Аптымізм падмацуе творчыя сілы і ў прафесійным плане. Можаш атрымаць кіраўнічую пасаду. Добры час для вядзення фінансавых спраў, магчымы выйгрыш. Зможаш дазволіць на большыя выдаткі. Вялікая папулярнасць у іншага полу (асабліва летам). У пачуццях горача. Добры настрой, пазітыўнае мышленне і выдатныя сямейныя лады падмацуюць тваю псіхіку, што паўплывае і на фізічную форму. Магчыма, што пад канец года схочаш перасяліцца ў вёску. Шчаслівыя дні: 19.01., 26.04., 09.05., 25.08., 19.10., 18.12.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Год падагульненняў. Пачынаецца складаны перыяд у тваім жыцці, тэст на тоеснасць, разрахунак са сваім сумленнем і одум, што далей. Закрываецца за табою нейкі этап, справы канчацца, распадуцца некаторыя лады (школа, праца). Калі ты яшчэ не ўвайшоў на новую дарогу, цяпер гэта зробіш. Будзеш мець сілу, энтузіязм, бліскуючыя задумы. Развяжаш шмат складаных спраў, павялічацца твае прыбыткі, будуць шанцы на новыя. Раптам могуць здарыцца новыя магчымасці і скок у кар'еры. Задавальненне з сябе і таго што робіш. Ад верасня можаш пашыраць сваю адукацыю. Наладзіш новыя кантакты, узмоцніш старыя. Будзеш умець адпачываць, што прыдасца — будзеш слабейшы фізічна і з горшым імунітэтам. Шчаслівыя дні: 07.01., 28.02., 26.05., 14.09., 11.11., 03.12.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Час ініцыявання новых праектаў, развою кар'еры і змен у характары. Аптымістычны погляд на свет і прыхільнае стаўленне атачэння. Адкрыюцца перад табою нечаканыя гарызонты, атрымаеш імпульс да сур'ёзных і творчых перамен — духоўных і матэрыяльных. Твае дзеянні будуць смелыя і рашучыя. Можаш пачаць новую адукацыю, уступіць у грамадскую ці рэлігійную арганізацыю. Карысны час для службовых падарожжаў (асабліва ў першай палове года), магчымая паправа жыллёвых умоў ці нават купля або пабудова дома. Але пільнуйся асабліва восенню пры рызыкоўных фінансавых трансакцыях. Можаш змяніць партнёра ў інтарэсах ці супрацоўнікаў — гэта будзе карысна для абодвух бакоў. Пад канец года канчацца твае праблемы і вызвалішся ад турбот. Шчаслівыя дні: 12.02., 17.03., 01.06., 22.07., 03.10., 28.11.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Узмоцняцца твае сілы. Магчымасць знайсці жыццёвага партнёра. Увойдзеш у перыяд жыццёвай сілы, мужнасці, аптымізму. Адчуеш у сабе «штосьці», што паможа пераадолець табе ўсе перашкоды. Калі дадасі да гэтага ахвоту да дзеяння, паслядоўнасць і моцную волю, пераломіш усе абмежаванні і шмат дасягнеш. У прафесійным плане сутыкненне арыгінальных і ўдумлівых канцэпцый із прызнанымі парадкамі ды традыцыйным падыходам да кіравання. Нават больш асцярожныя Львы будуць адважныя ў рызыкоўных дзеяннях. Дзякуючы карыснай сітуацыі і добрым выпадкам будзе шанц на пачатак новага раздзелу ў жыцці (магчымы крэдыт ці датацыя — можаш пакарыстацца еўрасаюзнымі сродкамі). Восенню падзейнічаеш з людзьмі важнымі ў грамадстве. Прытрапіцца табе таксама прафесійная нагода, ад якое не адмаўляйся, але трэба будзе таксама самому добра пастарацца. Шчаслівыя дні: 21.01., 12.04., 02.07., 18.09., 30.10., 14.12.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Увойдзеш у фазу новага вопыту і змен. Будзеш адважна прымаць на сябе выклікі лёсу і адкрыта казаць «не». Сітуацыя спрыяе глыбокім і пазітыўным зменам у жыцці, часта дзякуючы чулай інтуіцыі. Здабудзеш патрэбныя інфармацыі, скажаш і зробіш усё ў трапны момант. Будзеш дзейнічаць з большым аптымізмам і абдумваць планы на будучыню. Праца карысная і шляхетная. Чакае цябе поспех, але ўпірацца будуць асобы, што баяцца змен. Але не ўвядзі сябе ў ілюзію — тады грошы не будуць цябе трымацца, а дагаджанне капрызам і прыхамацям будзе пагражаць занядбаннем прафесійных і сямейных абавязкаў. Добрае здароўе, выгляд і настрой, усе будуць да цябе ліпнуць. Калі пачнеш сустракацца з кімсьці ў другой палове года, згуляеце вяселле. Шчаслівыя дні: 06.01., 13.03., 16.06., 20.08., 12.09., 12.12.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Разбудзяцца твае амбіцыі, а матэрыяльныя справы паправяцца. На працы сапраўдная рэвалюцыя — не тармазі яе. Калі зразумееш, што гэта частка твайго наканавання, лягчэй перанясеш няўпэўненасць і боязь за будучыню. Цалкавітая змена месца працы або галіны занятку, хоць не бязбольная, у перспектыве пару гадоў пайшла б табе к дабру. Калі маеш хоць цень шанцу, каб заснаваць свой бізнес, зрабі гэта, зоркі памогуць у рэальным мышленні і падыходзе — дачакаешся аптымальнага моманту. Восенню захочаш пашыраць веды ці дзейнасць. Паправіцца і матэрыяльная сітуацыя, чакай мілых неспадзяванак. Час на абдуманне асабістых і пачуццёвых спраў; калі штосьці кончыш — паявіцца новае, наканаванае табе лёсам. Магчымы лішак энергіі і самаўпэўненасці — пільнуйся, каб не пераборшчыць, асабліва на дарозе. Шчаслівыя дні: 31.01., 27.04., 02.05., 15.08., 07.10., 29.12.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Захочаш пакарыстацца жыццём, поўным харызмы. Агромная сіла. Карысны час для фінансаў. Калі вядзеш бізнес, чакаць можаш матэрыяльных прыбыткаў. Узрастуць твае прэстыж і верагоднасць, можаш быць павышаны, атрымаць падтрымку ўплывовых асоб ці змяніць працу на лепшую, таксама ў супрацоўніцтве з замежжам. Вельмі шмат працы. У кашальку моцна паправіцца. Магчымасці далёкіх падарожжаў. Людзі будуць цябе слухаць, давяраць, паважаць. Прыемнасць можа даць табе заняцце чымсьці нязвязаным з працай — танцам, псіхалогіяй, мастацтвам. Пачуцці гарачыя, перакрочваючыя ўсе бар'еры. Знаёмствы ўзбагацяць цябе таксам духова. Добры настрой, кандыцыя, аптымістычнае стаўленне да свету. Будзеш цярплівы, сцішаны, шляхетны, поўны жыццёвай энергіі. Шчаслівыя дні: 01.01., 28.02., 06.06., 15.09., 31.10., 07.12.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Добры час на справы важныя для будучыні. Будзеш хутчэй рэагаваць на небяспечныя сітуацыі. Узрастуць твае творчыя здольнасці, вера ў сябе, лягчэй будзе табе дабівацца поспехаў. Прытрапяцца нагоды, дзякуючы якім можна будзе зрэалізаваць важныя справы, дзякуючы тваім энергічным дзеянням, незалежнасці і прадпрымальнасці. Новыя магчымасці ў прафесійнай сферы. Не змарнуй шанцаў! Калі не маеш працы або незадаволены з яе, маеш магчымасць апынуцца ў новай фірме або і ў іншай галіне дзейнасці. Аформіш справы важныя для тваёй будучыні, таксама маёмасныя. Але не раскідвайся грашыма, асабліва на раскошу! Адкладзі што-небудзь на «чорную гадзіну», а ашчаднасці добра заінвестуй. Спакой і ўнутраная гармонія. Самотны Стралец можа моцна закахацца, але няхай зважае на выпадковыя знаёмствы, каб не было сюрпрызу. Шчаслівыя дні: 15.01., 04.04., 31.05., 18.18., 22.11., 31.12.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Для цябе цяпер усё магчымае! Непаўторная нагода, каб укрочыць на наканаваную табе дарогу і пашукаць сэнсу ўласных дзеянняў. Адчуеш інтэнсіўную волю жыцця, павялічыцца твая жыццялюбнасць і трываласць у напрамку да амбітных мэт. Спрыяць будуць высокапастаўленыя, важныя ў прафесіі і грамадстве людзі, асабліва жанчыны. Энергія ў працы ў групе вынесе цябе на вышыню прафесійных магчымасцей. Асаблівыя магчымасці для мастакоў — выявяцца проста геніяльныя пробліскі твайго таленту. Летнія месяцы паспрыяюць у лучэнні інтарэсу і прыемнасцей у час замежных падарожжаў. У канцы года пільнуйся пры непатрэбных выдатках на раскошу, асабліва ўзятых у крэдыт! І задбай аб сваё здароўе — з'ездзі ў санаторыю, займайся фізкультурай, не спяшайся. Шчаслівыя дні: 21.01., 08.03., 14.06., 31.07., 03.10., 30.11.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Пачнуцца добра складвацца фінансавыя справы. Узрастуць твае амбіцыя, сіла волі і адчай, каб як найхутчэй дабіцца поспеху. Хопіць энергіі. Мабілізуй таксама калег да лепшых вынікаў, але і для рэалізацыі ўласных мэт. Усе змены будуць карыснымі, як і новыя кантакты з адукаванымі і інтэлектуальна ды духоўна развінутымі асобамі — будуць яны цябе інспіраваць і падтрымліваць. Фінансавыя справы добра складуцца, а скрупулёзна разлічаныя выдаткі хутка прынясуць карысці. Стабільна ў фірме, але нанова складзі адносіны з калегамі і шэфам. Маеш шанц многа дасягнуць, але дзейнічай нестандартна, нават у апазіцыі да іншых. Можаш купіць машыну і заінвеставаць у нерухомасць. Сяброўствы і партнёрствы будуць каштоўнымі (таксама пры розным узросце). Ад верасня чакаюць цябе кантакты з незвычайнымі людзьмі. Год карысны для здароўя; усё што зробіш для біялагічнай адновы хутка прынясе пазітыўныя вынікі. Шчаслівыя дні: 02.02., 20.04., 15.05., 11.07., 07.10., 10.12.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Чакаюць цябе змены. Ляжа на цябе цяжар прафесійнай адказнасці. Калі будзеш дысцыплінаваны, прабуючы дастасавацца да патрабаванняў працадаўцы, будзеш на гэтых зменах мець карысці, а калі хочаш быць «вольным духам», магчымыя пераходныя праблемы. Можаш абавязкі адчуваць як вонкавы прымус, не як спосаб на самарэалізацыю. Можа таксама адчуць, што хаця ты працавіты і стараешся, не дацаняюць цябе ў фірме. Патрэбны будзе высілак. Засяродзься на калектыўных дзеяннях. Хаця Нептун будзе спакушаць нагодамі заробку ў няясных і мутных інтарэсах, дасі рады адмовіцца і атрымаеш падтрымку нябедных асоб і сяброў. Будзеш адчуваць сябе добра фізічна і псіхічна, мілавідны і прыемны ў кантактах. Самотную Рыбу чакае каханне, магчыма што з асобай з замежжа (няхай будзе вельмі асцярожная!). У здароўі добра, адкінь толькі ўсе свае крыўды, абразы, гнеў і жаль. Дбай аб здароўе, калі ў цябе хранічныя нямогласці. Шчаслівыя дні: 19.01., 21.02., 23.04., 07.07., 30.09., 29.12.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.

**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.

Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 11 000 egz.

# У палескай глыбінцы (27)



На дамоўленую сустрэчу з бурштынавым босам я прыйшла заранёў, каб не спазніцца. Вася з папяровымі кубачкамі *эспрэса* ўжо чакаў пад пальмамі ў вестыбюлі гасцініцы „Дружба”. У яго асобе я адразу распазнала чалавека лесу. Гэта быў непаседлівы тып палескага рабінзона невялічкага росту і неакрэсленага ўзросту. Яго жэсты гаварылі больш чым словы, якія выказваў з відавочнай неахвотай, часта ірваў сказ у палове ды пакідаў красамоўныя недамоўкі. Іншы раз, калі напрыклад, кранаў справу празмернай высечкі лесу, шчыра хваляваўся і дрыжаў ад абурэння. Яго аповед, спачатку спакойны і рахманы, раптам пераходзіў у „лясны буралом з маланкамі”, выклікаючы ў слухача жывы боль. Тады яго карычневыя вочы блішчалі як ашліфаваны бурштын. Трэба было памаўчаць, каб зноў атрымаўся талковы кантакт. У асноўным Вася, палескім звычаем, трымаў язык за зубамі. Ён не хацеў мне сказаць, якую ролю адыгрывае ён у бурштынавым бізнесе.

— Проста, дапамагаю хлопцам! — кінуў, нібыта ад неахвоты.

Як аказалася ў ходзе далейшага знаёмства, ён ад гадоў не выходзіў з „дабрачыннай” ролі. Яшчэ да бурштынавай гарачкі дапамагаў сваім хлопцам раскруціць журавінавы бізнес. Удзельнічаў таксама ў якасці пасрэдніка ў гандлі прамысловай соллю, якую скупілялі палякі. Той соллю, якую замест на заснежаныя дарогі, палякі сыпалі ў вяндліны і стравы. Уся справа закончылася грубай, агучанай на цэлы край, афёрай. Вася ледзь не памёр ад смеху, калі даведаўся пра хітрыкі польскіх бізнесменаў.

— У нас такога не прыдумалі б!

Гэта было чыстае какецтва, якое ў перакладзе на палескі код значыла нешта адваротнае: «не такія круцельствы тут мы прадумвалі!».

Зараз Вася займаўся пасрэдніцтвам у гандлі бурштынам і адначасова думаў ужо тры крокі наперад. Дзень і ноч ён ламаў галаву як наладзіць з Кітаем гандаль бабровым хвастом. Кітайцы прымяняюць бабровую струю ў якасці лякарства на палавыя слабасці.

— У вас можа правяралі як яно дзейнічае? — спытала я нясмела. Якраз прыгадаліся перабродскія гутаркі пра спаборніцтва на лік сыноў.

— Нам без прынады дзяўчаты падабаюцца — падмаргнуў мне бос.

З-за баяння і падказак-недаказак я не прыкмеціла, калі мы патрапілі на бурштынавае поле. На гэта спатрэбілася каля дзесяці хвілін язды на машыне. Дубровіцкі *клондайк* знаходзіўся сем кіламетраў за мястэчкам. Мы нават не паспелі належным чынам абмеркаваць тэму бабровага хваста...

* * *

Вобраз, які прывітаў нас на месцы, поўнасцю засланіў усе ранейшыя парагаворкі і кокетлівыя спекуляцыі. Перад намі крочыла баявітая брыгада мужыкоў рознага ўзросту. Усе яны былі апрануты ў камуфляжную форму, у кожнага на спіне быў пачэплены вайсковы заплечнік з такога ж камуфляжнага палатна, у руках неслі лапаткі і сачкі. Сярод брыгады Вася прыкмеціў знаёмага аўтахтона. Ён казырнуў яму на прывітанне.

„Гэта наш чалавек, — сказаў, не хаваючы здзіўлення, — чаго ён сюды заблытаўся?”. Звычайна мясцовыя трымаліся сваёй групы і тэрыторыі. Гэта было наваколле сяла або прастора ў межах калгаса, да якога раней прыналежала вёска. Туземцы прынцыпова не дапускалі да сябе людзей звонку і на ўсякія спосабы ўскладнялі праезд у гэтыя месцы паліцыі. Нярэдка на публічнай дарозе, якая сама па сабе напаміннала швейцарскі сыр, ляжалі яшчэ паваленыя дрэвы. Самі на бурштынавыя клады дабіраліся ляснымі або палявымі дарогамі на паношаных матацыклах, машынах ці на папулярным тут яшчэ роварах „Украіна”.

У Дубровіцы ўсё здавалася быць даступным, быццам на далоні. Ніякіх перашкод, тармазоў. Нават дарога выглядала на рамантаваную, то-бок, яе пасыпалі свежым гравіем. Як паясніў Вася, тут капаў кожны, хто хацеў: мясцовыя, прыезджыя, ваенныя бежанцы з Данбаса, нават малдаване...








— Значыць і мне дазволілі б тут капаць? — спытала я.

— Пэўна што, так! — ні то ўсур'ёз, ні то жартам падтакнуў Вася. — Яшчэ столькі памочнікаў знайшлося б... (у перакладзе на палескі код гэта значыла: „захацелася бабе мёду!”).

Нейкі час мы ішлі следам мужыцкага, баявітага шэсця, пераадзетага ў ваенны камуфляж. Здавалася, гэтая цэлая маскіроўка мела ў нечым апраўдаць нелегальны занятак і патлумачыць іх адсутнасць у зоне АТА. Яшчэ больш народу хавалася па ямах на полі. Уся дарога, па двух баках, была абстаўлена легкавымі машынамі, газікамі, паношанымі маршруткамі...

— Чаму гэтыя мужыкі не на вайне? — спытала я.

— Я сам мабілізаваўся дабравольцам на вайну, — пачаў Вася, — але яны мяне адпусцілі. У нас, калі ў цябе трое дзяцей, звальняюць са службы. Я падумаў, што тут аб'явіўся промысел божы... Хто хоча страляць, забіваць? Гэта ж не па-хрысціянску! А я нават перавысіў ваенны ліміт у дзетках. А іх жа карміць кожны дзень трэба! Правільна гавару — ці не?

Далей, мы павярнулі на поле, каб пагаварыць з капачамі.

* * *

Тарас і Міша ляніва махалі лапаткамі і ад неахвоты перакідаліся словам. Іх галовы ў камуфляжных кепках выглядалі з пясчанай ямы, якая мела ўжо больш за метр глыбіні. Прыехалі раніцай з Луцка. Першы раз. Без падрыхтоўкі і свядомасці чаго спадзявацца на месцы.

— Штось знайшлі? — загаварыў дзелавіта першы Вася.

— Ні храна!

— Тут ужо перарылі, — мой гід накіраваў прыгодных капачоў у іншы бок, дзе шумеў маладзенькі бярэзнік...

Карціна была пазбаўлена ўсякай рамантыкі і крымінальнай аўры, хутчэй напамінала гульню дарослых хлопчыкаў у пясочніцы. Самое рашэнне, каб прыехаць у Дубровіцу, відавочна яшчэ здзіўляла Тараса і Мішу. Гэтыя недавер маляваўся на іх наіўных, атупелых ад залішняй выпіўкі тварах. Пра бурштынавыя клады пачулі на сваёй фабрыцы, у час сяброўскай бяседы пры кілішку. Кіраўнік экспромтам выпісаў ім водпуск на два тыдні. Паехалі на праверку, каб ведаць што і як. Нават жонкі адобрылі іх задуму.

— Мая *дружына* пажадала, каб на *бэмвэ* дамоў вярнуўся, — сказаў з усмешкай Тарас.

Успамін жонкі, у сырым, разрытым полі, дадаваў яму сілы і ахвоты, каб махаць лапатай і верыць у багацце і шчаслівую будучыню...

Вася ў сваім жыцці бачыў тысячы такіх саламяных рамантыкаў. Звычайна, пасля тыдня беспаспяховых пошукаў, яны з'язджалі дамоў, праклінаючы свой неразважны крок, мазалі на руках і грашовыя патраты.

— Усё тут залежыць ад шчасця, — кажа Вася. — Адзін капае месяц і нічога не знойдзе. А другі знюхае месца ды за адзін дзень накапае бурштыну на мільён долараў. Я сам ведаю такога, што накапаў на два мільёны долараў. Ён знайшоў адразу чатыры кускі вагой за кілаграм...

Бурштын ацэньваецца паводле велічыні і выгляду. Самы дарагі камень светлага колеру. Яго ацэньваюць больш-менш па адной цане ў Валынскай, Ровенскай і Жытомірскай абласцях. Вася распісаў мне цану, па якой скупляе бурштын у капачоў. За кілаграм дробязі, да 2 грам, плаціць ім 400 долараў.

А вось пералік цэн за кілаграм паводле вагі кускоў бурштыну: 5 г — 800 $; 10 г — 1800 $; 20 г — 3800 $; 50 г — 4800 $; 100 г — 5800 $. Ніхто дакладна не ведае на колькі ацэнены бурштынавы бізнес ва Украіне. Не існуе бурштынавая біржа, няма афіцыйных пунктаў продажу, месцаў перапрацоўкі сыравіны. У Дубровіцы дарэмна шукаць магазіна з біжутэрыяй. Дзяржаўнае прадпрыемства „Бурштын Украіны” знаходзіцца ў стане банкруцтва. Тым часам, паводле неафіцыйных крыніц, кантрабандай вывезлі ўжо за мяжу на дзясяткі соцень мільёнаў долараў бурштыну. Некаторыя крыніцы заяўляюць ажно пра тры мільярды долараў. Паводле чуткам, цэлым бізнесам трасуць крымінальныя аўтарытэты, нейкі „Пірат” з Жытоміра і „Морда” з Львова...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960